PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 31 (1942) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 1 ЖНІЎНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Жніво.* Фота У. Завадскага

## КАГО ВЫБІРАЦЬ?

Лета будзе гарачае. Перш за ўсё — з увагі на палітычнае надвор'е. Калісьці два вакацыйныя месяцы журналісты называлі *sezonem ogórkowym.* Маўляў, нічога тады не дзеецца, пісаць няма пра што, акрамя як пра агуркі або пра даўганогіх дзяўчатак на пляжы. Такія сабе *wakacje z blondynką.* Цяпер дэмакратыя дала журналістам занятак і на лета. Напрыканцы яго, 19 верасня, адбудуцца чарговыя выбары ў парламент вольнай Рэчы Паспалітай.

Асноўныя акцэнты ўжо расстаўленыя. Пастваралiся выбарчыя камітэты і ўсялякія магчымыя і немагчымыя выбарчыя кааліцыі. У шмат каго з папярэдніх дэпутатаў ужо ўчапілася пракуратура, намагаючыся высветліць аўтэнтычнасць таго ці іншага подпісу пад рахункамі, дзе нулі вылазяць па-за ўсялякія рубрыкі, гэтак мовіць, на бакі. Неўзабаве рушыць выбарчы млын і ў сродках масавай інфармацыі. Тыя, у якіх няма грошай на вакацыі над морам і з усяго гэтага жыцця ёсць адно „Polskie ZOO", паціраюць рукі ад сціплай посткамуністычнай радасці.

Адзін мой знаёмы сказаў: лепш выбіраць старых, якія ўжо былі пры ўладзе — яны прынамсі ўжо што-нешта ўхапілі. Прыйдуць новыя, якія яшчэ не дабеглі да карыта, і будзе яшчэ горай. Не падзяляючы радыкалізму палітычных поглядаў майго знаёмага, у нечым, аднак, з ім пагаджаюся. Калі пасля вераснёўскіх выбараў і не будзе горай, дык і лепей таксама не. Пасля чатырох гадоў новага гаспадарчага ладу (ці, як хто хоча, — бязладу) грамадства ўсё-такі адчула, што цудаў у гаспадарцы не бывае. А перадвыбарчыя абяцанкі забываюцца так лёгка, як і ўсялякія іншыя. Але *адчуць* — гэта не тое самае, што *зразумець*. І таму, мабыць, шанц у выбарах найбольшы ў тых, хто пры ўладзе ў посткамуністычным перыядзе яшчэ не быў (прыкладам — у сацыял-дэмакратаў). Маўляў, дайце і мне паспрабаваць, *ja was urządzę*, бо іншыя таго не патрапяць. Усё гэта месціцца ў рамках палітычнай гульні, якую вядзецца паўсюды на свеце, але ў знявераным і збяднелым грамадстве выклікае ілюзорную надзею, што цуды ўсё-такі існуюць, трэба толькі знайсці адпаведнага цудатворца.

У нас на Беласточчыне ў німбе прарока-цудатворца ходзіць Уладзімеж Цімашэвіч. Калі б не адно *ale*, мне, асабіста, хацелася б, каб ён і ягоная *lewica* дайшлі да ўлады і паспрабавалі паказаць, што патрапяць. Усё тады стала б на сваё месца, і людзі нарэшце супакоіліся б. Як казалі старажытныя грэкі, нельга два разы абмачыць ногі ў той самай рэчцы, бо нішто такое самае не паўтараецца. У гэтым выпадку — не паўторыцца сацыялізм у сваім геркаўскім варыянце, дзе ўсім адначасова было добра, а калі стала нядобра, дык таксама ўсім. А значыць, той самы Цімашэвіч быў бы вымушаны будаваць гэты наш гора-капіталізм, як і Мазавецкі, і Бялецкі, і Сухоцкая. Гэта тое, што яшчэ не стала набыткам шырэйшай грамадскай свядомасці.

А вышэйпамянёнае *ale* звязваецца з тым, што выбарчыя сімпатыі беластоцкіх беларусаў якраз і схіляюцца ў бок Цімашэвіча і ягонай каманды. Як ні круці, усе намогі займець нашага беларускага прадстаўніка ў парламенце якраз і разбіваюцца аб *lewicę*. Іначай кажучы, наш нацыянальны інтарэс ідзе ў супярэчнасці з агульнапалітычнымі схільнасцямі нашага электарату. Вось таго мы дачакаліся: або ты *lewica*, або ты беларус. Трэцяга не дадзена.

**ЯН МАКСІМЮК**

## БЕСПРАЦОЎНЫЯ Ў БЕЛЬСКУ

Беспрацоўе — гэта эканамічная сітуацыя, калі людзі не маюць сталага заробку. Яна з'яўляецца адной з прыкмет капіталізму, а дакладней вольнарыначнай гаспадаркі, да якой ідзе наша краіна. Невялікае беспрацоўе, вышынёй на 3—4 працэнты ў суадносінах да агульнага ліку тых, якія працуюць, эканамісты трактуюць як жаданую з'яву, якая дысцыплінуе працаўнікоў і павышае прадукцыйнасць працы. Гэта таксама рэзервуар рабочай сілы для прадпрыемстваў і галін прамысловасці, якія дынамічна развіваюцца. Невялікае беспрацоўе выступае падчас гаспадарчага росквіту, рост жа яго сведчыць пра эканамічныя цяжкасці дзяржавы. Значны лік беспрацоўных выклікае многія негатыўныя з'явы і працэсы, між іншым вялікае абцяжарванне бюджэту дапамогамі для беспрацоўных і дапамогамі з грамадскай апекі, зніжэнне спажывання і ўмоў жыцця, агульнае незадавальненне ды напружанасці ў грамадскіх суадносінах, рост злачыннасці.

Бельск-Падляшскі мае сёння 27,8 тысячы насельніцтва. У прадукцыйным узросце тут 15,2 тысячы жыхароў. 30 чэрвеня гэтага года ў Раённым бюро працы зарэгістраваных было 2361 бяльшчан і 4086 чалавек з цэлага бельскага раёна (горад і гміна Бельск-Падляшскі, горад і гміна Бранск, гміны Рудка, Боцькі, Орля і Вышкі). Працэнт беспрацоўных, які вымяраецца ў сотых долях агульнага ліку працуючых у дадзены час, дае ў падрахунку 16,7% для Бельска і 10,2% для раёна (у Польшчы ў сярэднім у канцы чэрвеня — 14,6%).

63% беспрацоўных у горадзе — маладыя ад 18 да 34 гадоў, а 52% — жанчыны. Больш за палову застаўшыхся без заробку не мае права на сталую аднагадовую дапамогу па беспрацоўю.

У чэрвені ў Раённым бюро працы ставілася 368 сёлетніх выпускнікоў мясцовых сярэдніх школ. Ад канца мінулага года тэмп росту ліку беспрацоўных значна знізіўся. Аднак тэндэнцыя да стабілізацыі хутчэй за ўсё няпраўдзівая, бо многія, не бачучы надзеі ані на працу, ані на дапамогу, адмовіліся ад рэгістрацыі.

Большасць беспрацоўных мае сярэднюю прафесіянальную адукацыю, а найменш (70 чалавек) з дыпломамі вышэйшых навучальных устаноў. Зараз у горадзе найбольш без сталага занятку механікаў, манцёраў, тэхнікаў розных тэхнічных прафесій, тэхнікаў-эканамістаў, тэхнікаў сельскай гаспадаркі, прадаўцоў і рабочых без кваліфікацый.

З 1991 года ў Бельску збанкруцілася 5 значных прадпрыемстваў: ільнозавод „Ленполь" (рашарня), Агароднінапчалярскі кааператыў „Вітамін", ПОМ, Прадпрыемства водна-меліярацыйнага абсталявання і транспарту, Вытворча-паслуговы кааператыў „Велёбранжова". У паасобных прадпрыемствах страцілі працу наступныя колькасці людзей: 160, 100, 120, 130 і 130. Шмат прадпрыемстваў змагалася і змагаецца за тое, каб пратрымацца, рэдукуючы склады працоўных калектываў. Прыкладам можа быць Фабрыка электралітычных кандэнсатараў „Эльва". Гэты некалькі гадоў таму назад самы буйны ў Бельску-Падляшскім завод (660 працаўнікоў) ужо ў 1991 годзе больш як на два разы паменшыў колькасць сваіх працоўных. Сёння „Эльва" ўсяго толькі 15% сваёй прадукцыі прадае ў Польшчы. Астатнія 85% прадукаваных тут кандэнсатараў высылае на Усход узамен на каляровыя тэлевізары.

Як дагэтуль найлепш трымаюцца будаўнічыя прадпрыемствы, хаця таксама з неспакоем глядзяць у будучыню.

Кожнае банкруцтва прадпрыемства прыносіць страты для гарадской касы. Гаспадарчая рэцэсія абмяжоўвае інвестыцыі і выклікае чарговае беспрацоўе.

Сітуацыя на бельскім рынку працы сёння дрэнная. Выключэннем з'яўляецца хіба толькі фірма „Унібуд", якая дэкларуе прыняццё любой колькасці спецыялістаў будаўнічых прафесій. Дырэкцыі іншых прадпрыемстваў не намерваюцца павялічваць колькасць працоўных, а некаторыя — як памянёная ўжо „Эльва" — рыхтуюцца да наступных значных рэдукцый.

Раённае бюро працы мае пэўныя фінансавыя сродкі на так званыя актыўныя формы пераадольвання беспрацоўя (мне асабіста не падабаецца польскае словазлучэнне „walka z bezrobociem" з-за магчымасці антыгуманітарнай яго інтэрпрэтацыі — Ю.Б.), а перш-наперш на інтэрвенцыйныя працы, публічныя работы, навучэнні беспрацоўных новым прафесіям, невялікія крэдыты і таму падобнае. Агульная колькасць гэтых грашовых сродкаў у 1993 годзе складае суму 5,6 мільярда злотых — пры ацэначнай патрэбе 12 мільярдаў злотых. На працягу першых пяці месяцаў Бюро зрасходвала 3,3 мільярда злотых.

☞ *Працяг на стар. 3*

# ГРОШЫ І ПАЛІТЫКА

Да нядаўна яшчэ гэтыя два фактары не мелі між сабою вялікіх сувязяў. Сёння адно без аднаго амаль не існуе. Толькі некалькі дзён прайшло пасля роспуску парламента, а ўжо пару сенатараў і паслоў арыштавалі за фінансавыя махлярствы. Выглядае, што гэта толькі пачатак падліку працы некаторых парламентарыяў, а калі пасля выбараў улада знойдзецца ў руках левых ці правых радыкалаў, трэба спадзявацца абвінавачання і першых салідарніцкіх міністраў. Пачынаецца чарговы этап барацьбы за ўладу ў Польшчы. У перадвыбарчай прапагандзе будуць дамінаваць не праграмы паасобных партыяў, бо ніхто іх амаль не мае, а толькі лозунгі і сімвалы. Праграм, зрэшты, няшмат выбаршчыкаў мае ахвоту чытаць, не для ўсіх яны зразумелыя. Людзі думаюць паводле нейкіх схемаў, якія не вельмі прыстаюць да рэчаіснасці. Напрыклад, Саюз левых дэмакратаў прынялося лічыць „левіцай”, але калі прыглядзецца, як прадстаўнікі гэтай партыі галасавалі ў Сейме ў гаспадарчых справах, дык смела можна іх палічыць направа ад цэнтра. І наадварот, партыі, якія сябе лічаць арганізацыямі правага накірунку, і так іх бачыць грамадства — групоўкі Альшэўскага, Мацярэвіча, Парыса — дамагаюцца спыніць прыватызацыю дзяржаўнай маёмасці!.. Гэта ж асноўны прынцып праграмы ўсіх плыняў сацыялістычнага накірунку. Разумнейшаму выбаршчыку вельмі цяжка будзе разабрацца, якая партыя можа адпаведна прадстаўляць яго інтарэсы. Пакуль што, адбываецца толькі прэсавы аўкцыён наконт таго, хто большы патрыёт, хто лепшы хрысціянін, хто больш кахае і спачувае беспрацоўным, хто быў супрацоўнікам тайнай паліцыі, хто ёсць замаскіраваным камуністам або касмапалітам.

У папярэдніх выбарах — два гады таму — адзін пасольскі мандат партыі Porozumienie Ludowe каштаваў 107 мільёнаў злотых, а посткамуністы на кожнае адно сенатарскае месца выдалі 227 мільёнаў (*Polityka*, nr 25). Такія менш-больш сумы каштавала выбарчая кампанія тады, калі нашмат таннейшымі былі паліграфічныя паслугі, цана паперы, рэклама ў радыё і тэлебачанні, сродкі транспарту для кандыдатаў і іх штабаў. Цяпер сумы з папярэдніх выбараў трэба было б павялічыць у 2—3 разы і атрымаецца тады поўны кошт выбарчай кампаніі. Некаторыя партыі заяўляюць, што ў сёлетніх выбарах могуць выдаць **10 мільярдаў** злотых (Ліберальна-дэмакратычны кангрэс), хтось іншы гаворыць пра 5 мільярдаў (RdR Яна Альшэўскага), але гэтыя сумы трэба ўспрымаць як паменшаныя ў некалькі разоў ад тых, якія будуць выдавацца ў сапраўднасці. Толькі такія грошы, кінутыя на прапаганду, даюць нейкі шанц у выбарах. Сто ці трыста мільёнаў на кожнага пасла, якія будуць прымушаны выдаваць партыі, паказваюць, як каштоўнай забавай стала палітыка. Узнікае пытанне: чаму такія вялікія грошы выкідаецца на плакаты, якія зараз жа зрываюць канкурэнты, на радыёперадачы, якія пасля некалькіх дзён ніхто ўжо не хоча слухаць, на перадвыбарчыя сустрэчы, на якіх пануюць дэмагогія і папулізм? Адказ просты — гэта інвестыцыя, якая мае вярнуць усе выдатканыя сродкі і да таго ў некалькі разоў больш. Пасля, у найгоршым выпадку, пару паслоў ці сенатараў пойдзе ў турму сядзець некалькі тыдняў ці месяцаў, але з-за адсутнасці якіх-небудзь доказаў іх віны, усё добра кончыцца.

Варта цяпер прыгледзецца, з якім патэнцыялам ішло на папярэднія выбары беларускае асяроддзе. У чэрвені 1989 г. Беларускі выбарчы камітэт выдаў 420 тысяч злотых на прапаганду сваіх кандыдатаў у Сейм і Сенат, а ў 1991 г. — каля 12 мільёнаў. У адных і другіх выбарах уся выбарчая кампанія трымалася на энтузіязме пару дзесяткаў чалавек. У чэрвені 1989 г. хлопцы з Маладзёжнага праваслаўнага брацтва амаль поўнасцю заклеілі бел-чырвона-белымі плакатамі цэнтр Беластока. Наша прапаганда здамінавала нават салідарніцкую і камуністычнай кааліцыі. Таксама ад Саколкі да Сямяціч у кожнай вёсцы з вокнаў крамаў, малачарняў, ці інфармацыйных дошак кідаліся ў вочы нашыя прапагандысцкія матэрыялы. Я нават не ведаю прозвішчаў людзей, якія, пакінуўшы свае заняткі, сталі рабіць беларускую палітыку. Усё паказвала на тое, што беларусы пачалі будзіцца і змагацца за сваё. Энтузіязму, аднак, можа хапіць толькі на адны выбары. Падчас другіх не толькі пагоршылася атмасфера ў беларускім асяроддзі, але таксама пагас энтузіязм да палітыкі. Дэмагогія ў тэлебачанні, радыё, друку, плакатах вельмі некарысна паўплывалі на тыя асяроддзі, якіх галоўнай сілай была спантанная грамадская актыўнасць. Асталіся тыя, якія мелі грошы для прафесіянальных агітатараў, энтузіязм якіх ніколі не гасне, пакуль плывуць у іх кішэні грошы.

Цяжка здагадацца, адкуль мільярдныя сродкі бяруць польскія партыі. Напэўна — не з членскіх складчын, бо іх амаль няма. У гэтым кантэксце паўстае пытанне пра шанц беларускіх кандыдатаў у выбарах, якія адбудуцца 19 верасня 1993 г. За імі не стаяць ніякія грошы, а толькі некалькі дзесяткаў чалавек, якія ўжо без энтузіязму, але з маральнага абавязку паедуць збіраць подпісы ці расклейваць плакаты. Найгоршае цяпер аднак астаецца: свядомасць, што народ паверыць не сваім сынам, а красамоўным дзядзькам, якія будуць гаварыць толькі тое, што людзі любяць слухаць. Іх канчатковая мэта — быць у парламенце, а мэта грамадства — лепей жыць.

Логіка падказвае, што пагадзіць гэтыя інтарэсы можа толькі хтосьці, хто вырас з гэтага грамадства і жыве яго праблемамі. Але ці логіка калі-небудзь стане галоўным фактарам нашага мыслення?

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## БГКТ МОЖА ГАНАРЫЦЦА СВАІМ ДЭЛЕГАТАМ

Зусім не здзіўляюся, што ў нашых сталіністаў я лічуся „дурнем”. Вядома, калі хтось з імі не згаджаецца, той у іх уяўленні адразу становіцца „псіхічна хворым”. Тое ж самае было добра спрактыкаванае савецкімі бальшавікамі ў час панавання Брэжнева. Большасць „дысідэнтаў” трапіла ў псіхіятрычныя шпіталі, хаця яны толькі сумняваліся ў слушнасці палітыкі пануючай мафіі. Ну, бо хіба савецкі чалавек мог тады не верыць у будучыню камунізму?

Вельмі добра, што рэдакцыя „Нівы” змясціла рукапіс нейкага дэлегата на XII З’езд БГКТ („Ніва”, н-р 27). Вельмі добра, што таксама паказаўся ён на старонцы гумару і сатыры. Але з другога боку толькі такі матэрыял паказвае сапраўдную атмасферу XII З’езда. Гэтая нянавісць і дзікасць поглядаў напамінае найгоршы сталінскі час. Не ўспамінаю тут пра багацце лексікі і стылістыку гайнаўскага дэлегата. У адной фразе выступаюць словы польскія, беларускія, расейскія, мабыць, і яцвяжскія.

З ліста гэтага дэлегата відаць, што беларускія справы яму абыякавыя, важнае толькі, каб не крытыкаваць Леніна, бо ён для яго з’уляецца богам. Выглядае на тое, што XII З’езд моцна падмацаваў ленінскія меркаванні дэлегата Гайнаўскай зямлі.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

**Спадару**
**ПЯТРУ ЮШЧУКУ**
**— старшыні Беларускага саюза ў РП —**
**словы глыбокага спачування**
**з прычыны напаткаўшага Яго гора —**
**смерці МАЦІ**
**выказвае**
**Галоўная рада БДА**

**Старшыні**
**Беларускага саюза ў Рэчыпаспалітай**
**ПЯТРУ ЮШЧУКУ**
**глыбокае спачуванне**
**з нагоды напаткаўшага Яго гора —**
**смерці МАЦІ**
**выказвае**
**рэдакцыя „Нівы”**

# Д ’ Я Б Л Ы

*Заканчэнне.*
*Пачатак у 28, 29 і 30 н-рах.*

Бальшавізм ёсць ідэалагічнае выяўленне крымінальнай ахлакратыі. Ідэалогія, выведзеная з псіхалогіі ўзбуджанага натоўпу, дзе чалавек траціць якасці асобы і ператвараецца ў псіхапатычную частку біялагічнай чарады, дзе рэзка зніжаецца набыты ўзровень культуры, дзе пануюць інстынкты. Вось яна, тая антыхрысціянская „бэстыя”, пра якую марыў і пісаў Ніцшэ (яшчэ адзін цёмны „геній”), той „дыянізаўскі дух”, вызвалены ад культуры. Ён ажыццявіўся гістарычна ў бальшавіках.

Сэрвілізм, не абмежаваны ніякай сістэмай, — ідэальнае сацыяльнае асяроддзе для бальшавікоў. Натоўп падтрымліваў, абагаўляў сваіх катаў, нават прайшоўшы праз ЧК і ГУЛАГ. У справе н-р 25 Асобай камісіі гаворыцца пра забойства ў Растове-на-Доне прафесара Колі. Бальшавікі вывелі яго з дому на вуліцу і пачалі разбірацца. Сабраўся выпадковы натоўп і крычаў яму: „генерал”, „мільянер”, патрабаваў забіць, „як і ўсіх багатых людзей”. Бальшавікі расстралялі прафесара і труп выцягнулі на сярэдзіну вуліцы. Натоўп пачаў глуміцца над трупам. „Жанчыны таптalі нагамі, некаторыя плявалі..., патрабавалі смерці яго ўдавы і дзяцей”. Трыццатыя гады потым далі неверагодныя прыклады рабалепства.

У чым жа прычына бальшавізму? Максім Горкі, знаўца Расіі, тлумачыў яе „искючительной жестокостью русского народа („О русском крестьянстве”), калі „нядаўні раб” стаў уладаром бліжняга свайго”. Горкі памыліўся. Гэта не прычына а, хутчэй, вынік. Адказнасць за вар’яцкія ідэі павінен несці не народ, а пачка рэвалюцыянераў на чале з Леніным.

Заўважце, як суадносіцца ўся гісторыя камунізму ў СССР, увесь ланцуг злачынстваў з выказваннямі і нават з тэрміналогіяй Леніна і яго акружэння. Зло сталі называць дабром, а дабро злом. Адбывалася перакульванне, падмена фундаментальных паняццяў жыцця. Нормай рабіўся грэх, ненармальнае — нармальным. У 20-х гадах у Тыфлісе быў надрукаваны зборнік чэкісцкай паэзіі „Улыбка Чека”. Бальшавіцкі садыст, што катаваў і забіваў, нейкі Эйдук, пісаў:

*Нет большей радости,*
*нет лучших музык,*
*Как хруст ломаемых*
*жизней и костей.*
*Вот отчего, когда томятся*
*наши взоры*
*И начинает буйно страсть*
*в груди вскипать,*
*Черкнуть мне хочется*
*на вашем приговоре*
*Одно бестрепетное:*
*„К стенке! Расстрелять!”*

Гэты падонак не трапіў у бальшавіцкія хрэстаматыі. Большасць камуністаў, відаць, задавальнялі свой юр звычайным спосабам.

*Ко мне —*
*Кто всадил спокойно нож*
*И пошел от вражьего тела с песнею!*

— пісаў Маякоўскі (успомнім матроса „Эдуарда”). Гэта названа ім новай „нагорнай пропаведдзю”.

*„Это я попал пальцем в небо,*
*показал: он — вор!”*

Пасля кастрычніцкага перавароту богазмагарская тэма ў Маякоўскага і апяванне Антыхрыста змяняюцца. Месца Антыхрыста займае Ленін — канкрэтны чалавек. Экзальтаванае апісанне яго асобы Маякоўскім — гэта прыняцце акту прышэсця Антыхрыста ў форме багахульнага літаратурнага юродства. Уся гэтая кніжная мярзота была ўведзеная ў школы, убівалася ў галовы аслепленых, невідушчых з дзяцінства людзей.

☞ *Працяг на стар. 8*

## ЛЕХ ВАЛЭНСА АДКРЫЎ ДЛЯ СЯБЕ БЕЛАРУСЬ

Яшчэ за некалькі дзён да пачатку візіту прэзідэнта Польшчы ў Беларусь з’явілася паведамленне, што ніякіх афіцыйных пагадненняў падчас сустрэчы Леха Валэнсы са Станіславам Шушкевічам падпісвацца не будзе.

Тым не менш, цікавасць да візіту кіраўніка польскай дзяржавы была вельмі вялікая. Пан Валэнса прыехаў у Беларусь, бадай, у самы кульмінацыйны перыяд амаль двухмесячнага палітычнага супрацьстаяння спікера парламента Станіслава Шушкевіча і прэм’ер-міністра Вячаслава Кебіча, выкліканага спрэчкамі па пытанню: далучацца Беларусі да ваеннага саюза з Расеяй ці не. Таму не дзіўна, што падчас кожнага зручнага выпадку журналісты імкнуліся высвятліць пазіцыю Леха Валэнсы наконт ваеннага блоку Беларусі з Расеяй, і наогул, як ставіцца польскі кіраўнік да Балтыйска-Чарнаморскага саюзу. На жаль, ні на адно з гэтых пытанняў пан прэзідэнт не даў канкрэтнага адказу. Затое наконт эканамічнага супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі Лех Валэнса гаварыў многа і ахвотна. Ён нават выказаў спадзяванне, што да двухтысячнага года беларуска-польская мяжа стане празрыстай, а, магчыма, і зусім знікне, каб даць грамадзянам мажлівасць без перашкод наведваць адзін аднаго.

Дарэчы, памежныя праблемы ўздымаліся не толькі на дзяржаўным узроўні. Амаль пры кожнай сустрэчы Леха Валэнсы са сваімі суайчыннікамі ў Менску, Баранавічах і Навагрудку гучала патрабаванне польскай дыяспары даць ім пэўныя ільготы для бесперашкоднага наведвання гістарычнай радзімы — Польшчы. Былі таксама і просьбы дапамагчы культурнаму і рэлігійнаму адраджэнню беларускіх палякаў.

Акрамя сустрэч на так званым вышэйшым узроўні і размоў з суайчыннікамі, Лех Валэнса меў рандэву з лідэрам Беларускага народнага фронту Зянонам Пазняком. Адбылася гэтая сустрэча ў Курапатах, дзе польскі прэзідэнт ускладаў кветкі да памятных крыжоў. Вядома, з-за недахопу часу Пазняк і Валэнса ў палітычныя праблемы не паглыбляліся, але пэўную інфармацыю аб дзейнасці БНФ прэзідэнт Польшчы ўсё ж атрымаў і, магчыма, у яго склалася больш поўнае ўяўленне аб дэмакратычным руху на Беларусі. А яшчэ Леха Валэнсу вельмі здзівіла, што ў Курапатах да гэтага часу няма вартага помніка. Больш таго, калі прэзідэнт Польшчы даведаўся, што пры паблажлівасці ўлад невядомыя вандалы раскопваюць магілы, то прапанаваў заснаваць міжнародны фонд у падтрымку Курапатаў.

Увогуле, сам факт сустрэчы з Лехам Валэнсам, якая здарылася па ініцыятыве польскага боку, Зянон Пазняк расцаніў як дэманстрацыю сапраўды дэмакратычнай пазіцыі прэзідэнта.

Справядлівасць слоў лідэра БНФ пацвердзіў і сам прэзідэнт. Выступаючы перад дэпутатамі беларускага парламента, ён сказаў шмат добрых слоў у адрас апазіцыі БНФ, што выклікала нядобразычлівае шыпенне з боку пракамуністычнай большасці.

Вось уласна кажучы, і ўсе асноўныя моманты першага візіту Леха Валэнсы ў Беларусь.

Станіслаў Шушкевіч, падсумоўваючы вынікі, прызнаўся, што перамовамі з польскім кіраўніком задаволены і намякнуў, што кантакты паміж лідэрамі дзвюх краін павінны быць больш частымі. Таму, відаць, неўзабаве мы зноў зможам убачыць прэзідэнта Польшчы на беларускай зямлі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# НАШЫ КАРАНІ

### LV. РЫЦАР І АПЯКУН

У часы вялікай княгіні Галены Іванаўны і свяціцеля Іосіфа II Солтана, мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі, разгарнуў сваю надзвычай плённую палітычную, вайсковую, грамадскую і перш за ўсё духоўную дзейнасць князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі.

Вытокі роду Астрожскіх губяцца сярод старажытнай дынастыі князёў тураўскіх і пінскіх. Адным з першых, хто трапіў у летапісы, — гэта князь Даніла з Астрога, што на рацэ Гарыні ў Валынскай зямлі. Ён са сваімі воямі змагаўся супраць памкненняў караля польскага Казіміра Вялікага ў 1341 г. захапіць Валынь. Выдатна павысіў славу і павялічыў уладанні роду яго блізкі сваяк князь Фёдар Васілевіч Астрожскі, быўшы на службе ў вялікага князя літоўскага і караля польскага Якава-Ягайлы-Уладзіслава. Ён многа добрага зрабіў для Праваслаўнае Царквы, засноўваючы па ўсёй Валыні храмы і манастыры. На схіле жыцця, калі ўжо не ставала яму сілы спраўна валодаць мячом у абароне паўднёвых граніц Беларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага), падаўся ён у Кіева-Пячэрскую лаўру, „пакінуў спакусы гэтага свету, славу княскую і прыняў манаскі постryг", — піша ў „Жыціях святых" архіепіскап Філарэт. Пры яго грабніцы ў Дальніх пячорах Кіева-Пячэрскай лаўры на людзей сыступала ласка Госпадняя, Праваслаўная Царква кананізавала князя Фёдара,а памяць яго адзначаем 24 (11) жніўня.

Яго сурадзіч, князь Дашко, або інакш Даніла Астрожскі ўславіўся тым, што нягледзячы на смяротную небяспеку што яму пагражала, вызваліў закаванага ў ланцугі ў Камянецкай крэпасці вялікага князя літоўскага Льва-Свідрыгайлу, вядомага абаронцу праваслаўных ад знявагаў, чыненых вялікім князем Вітаўтам і яго братам Зыгмунтам.



Князь Канстанцін нарадзіўся ў 1460 годзе ў сям'і князя Івана Астрожскага і невядомай па імю сваячніцы каралевы Соф'і, жонкі караля Якава-Ягайлы-Уладзіслава. Дзе княжыч Канстанцін (па-тадышняму — Касцеша) атрымаў адукацыю — дакладна невядома. Несумненна, аднак, што пасля грунтоўнай падрыхтоўкі дома манахамі, відаць, згодна звычаю тых часоў, што панавалі сярод арыстакратыі Беларусі і Украіны, займаўся ён у якімсьці заходнеўрапейскім універсітэце, мабыць, у Італіі, шмат падарожнічаў па Заходняй Еўропе. На адукаванасць паказваюць яго шырокі далягляд у розных дзялянках дзяржаўнага жыцця, замежнай палітыкі, ваеннага майстэрства, культуры ў шырокім разуменні гэтага слова. Набытыя ў замежжы веды і ўменні малады князь скарыстаў перш за ўсё ў кіраванні сваімі аграмаднымі ўладаннямі на Палессі і Валыні. У рыцарскім рамястве практыкаваўся ён таксама, як ягоны дзядзька, князь Фёдар, бароначы паўднёвыя рубяжы дзяржавы ад рабаўніцкіх нападаў настырных крымскіх татараў. Мужнасць і патрыятызм маладога князя былі заўважаны на вялікакняскім двары ў Вільні, відаць, не без уздзеяння Галены Іванаўны ў 1497 г. вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык даручыў яму жазло вялікага гетмана, гэта значыць — галоўнакамандуючага войскамі ўсяе дзяржавы. Хоць вельмі малады ўзростам, але надта ж здольны палкаводзец паказаў сябе з найлепшага боку не толькі на полі бою, але і ў справах добраўпарадкавання абароннасці краіны, аднак у 1500 годзе армія Вялікага княства Літоўскага пацярпела на рацэ Вядрошы поўны пагром ад маскоўскіх войск, а сам гетман трапіў у маскоўскую няволю. Як падае „Хроніка літоўская і жамойцкая", „князь Константин Острожский в тяжшом над всех вязеню седел, мел руки назад опак оловом залитые, ноги скованые". І ўсё гэта толькі за тое, што не згадзіўся служыць маскоўскаму князю. Затым, усвядоміўшы, што гэтая пакута можа давесці да смерці (у яго высахлі рукі), ён прыкінуўся згодным на службу Маскве і, калі яго вызвалілі з казні, пры першай нагодзе ўцёк на радзіму ў 1507 годзе. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Зыгмунт Стары неўзабаве ўзводзіць яго на пасаду каштэляна віленскага (1511 г.), а праз адзінаццаць гадоў бездакорнай службы ставіць яго ваяводам троцкім (гэтая пасада з часоў Вітаўта была забаніравана толькі каталіку) і дае яму галоўнае месца ў вялікакняскай і каралеўскай Радах. Сваё паражэнне на Вядрошы і ганебнае зняволенне ў Маскоўшчыне князь Астрожскі сплаціў у славутай бітве пад Оршай у 1514 годзе, падчас якое пагалоўна разграміў маскоўскую армію. Ён быў пераможцам у 60 бітвах, а Зыгмунт Стары наладзіў яму аж два трыумфальныя ўезды ў Вільню і Кракаў, што ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага здаралася вельмі рэдка.

Князь Астрожскі разам з мітрапалітам Солтанам выдатна паўплывалі на змену стаўлення вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх Аляксандра і Зыгмунта да Праваслаўнае Царквы і яе вызнаўцаў. Ён кіраваў праваслаўнымі магнатамі і баярствам у шэрагу ініцыятываў па ўмацаванню іхняга становішча ў краіне і павышэнню ў ёй ролі Праваслаўнае Царквы, адыграў важную ролю ў станаўленні нацыянальнай свядомасці ліцвіноў (так тады называлі беларусаў) і русінаў (украінцаў). Пад патранатам вялікай княгіні Галены Іванаўны і князя Канстанціна Астрожскага гуртаваліся самыя выдатныя пратэктары Праваслаўя, асветы і культуры: княскія і магнацкія роды Алелькавічаў, Друцкіх, Саламярэцкіх, Чартарыскіх, Хадкевічаў, Тышкевічаў, Ільінічаў і многіх іншых.

У 1511 г. князь Астрожскі атрымаў ад караля дазвол на абнаўленне, а фактычна на пабудову нанава Прачысценскага сабора ў Вільні, які быў другой (пасля наваградскай) кафедрай мітрапалітаў кіеўскіх і ўсяе Русі, фактычным цэнтрам духовага жыцця праваслаўных у Вялікім княстве Літоўскім, а таксама княскім некропалем (у ім былі пахаваны вялікі князь Аляксандр (у манастве Аляксей) Альгерд, яго абедзве княгіні і іншыя выдатныя асобы). У 1514 г. Астрожскі абнавіў Свята-Мікалаеўскую царкву ў Вільні, узведзеную ў XIV стагоддзі на месцы пакутніцкай смерці трох віленскіх мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія. Ён таксама пабудаваў у Вільні Свята-Троіцкі манастыр і ў ім царкву, таксама Свята-Троіцкі манастыр у родавым Астрогу на Валыні, манастыр у Дзермані, абнавіў і забяспечыў матэрыяльна Кіева-Пячэрскую лаўру, пабудаваў і стварыў адпаведныя ўмовы для жыцця і дзейнасці духавенству мноства праваслаўных цэркваў у сваіх абшырных маёмасцях. Сваім прыкладам заахвоціў іншых да патранавання і ўспамагання Праваслаўнай Царквы, між іншым заахвоціў свайго родзіча Аляксандра Хадкевіча да заснавання Супрасльскага манастыра. Дзякуючы падтрымцы князя Астрожскага мітрапаліт Солтан змог ажывіць і ўпарадкаваць дзейнасць Царквы, а славуты беларускі першадрукар Георгій (Францішак) Скарына дзякуючы ім абодвум атрымаў магчымасць заснаваць у Вільні першую ва Усходняй Славяншчыне друкарню.

Памёр князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі ў 1530 г., пахаваны ў Свята-Успенскім саборы Кіева-Пячэрскай лаўры.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# СВЯТЫ СЛАЎНЫ ПРАРОК ІЛЬЯ



Быў ён сынам Саваха з калена Левіна. Падчас нараджэння Ільі яго бацьку паказалася, што бачыць, як яго сына „нейкія паважаныя мужы калыхаюць у агні і кормяць полымем". Калі расказаў аб сваім бачанні іерусалімскім свяшчэннікам, яны адказалі яму: „Не турбуйся, твой сын будзе жыць у асвечанасці, а ізраільцян будзе судзіць мячом і агнём". І на самай справе Святы Прарок Ілья быў шчырым абаронцам сапраўднай веры. І хаця нарадзіўся такім самым чалавекам, як і мы, аднак так ачысціў свой розум ад усялякіх нечыстот, што ўвесь быў перапоўнены святасцю.

Сваю прарочую місію пачаў пры цары Ахаве, які шанаваў паганскага бога Ваала. З мэтай прывесці цара і яго народ, які за ім пайшоў, на шлях веры, Ілья саслаў трохгадовую сушу. У той час Прарок перасяліўся ў пустыннае месца. Харчы штодзённа прыносіў яму крук, а ваду піў Ён з суседняй крыніцы. Праз нейкі час перасяліўся Ён у Сідонскую Сарэпту і жыў у нейкай удавы. У выніку Ягоных малітваў мука і алей цудоўна ў яе размнажаліся. Калі памёр яе адзіны сын, Ілья ўваскрасіў яго сілай дадзенай Яму Богам. Урэшце Прарок пераканаў цара і народ, што толькі Гасподзь — сапраўдны Бог. Адбылося гэта на Гары Кармель падчас ахвярапрынашэння. Пасля малітвы Ільі агонь, які сышоў з неба, спаліў ахвяраванні разам з камянямі, на якіх былі яны пакладзены, але ахвяраванні прынесеныя жрацамі паганскага Ваала засталіся некранутымі. Пасля гэтага здарэння суша скончылася. Нягледзячы на здзейсненыя цуды, жонка цара Ахавы далей працягвала праследаваць Прарока Ілью і той зноў быў прымушаны уцякаць. Калі начаваў ён на Гары Сінаі, з'явіўся Яму Бог у „ціхім лагодным подыху ветру".

Многімі цудамі падтрымліваў Ілья веру ў народзе і знішчаў ідалапаклонства. Палымяная шчырасць у веры, поўнае паслушэнства Божай волі, чысціня жыцця, вялікая прывязанасць да малітвы і аскетызму сталі прычынай таго, што ўжо пры жыцці называлі Яго Божым чалавекам. Сваім нашчадкам, згодна з Божай воляй, назначыў Ён Елісея.

За святасць свайго жыцця Прарок Ілья быў узяты жывым на неба. Гэтае цудоўнае здарэнне — доказ паўсюднага ўваскрашэння і ператварэння цел жывых людзей у апошні дзень Страшнага Суда. Паводле навукі Царквы, Святы Ілья разам з Енохам будуць вешчунамі паўторнага прыходу Хрыста на зямлю і толькі тады будзе ім дадзена фізічная смерць. Прарок Ілья быў сведкам Праабражэння Гасподняга на Гары Фавор. Жыў Ён у IX стагоддзі да нараджэння Хрыста. Яго памяць ушаноўваем 2 жніўня (20 ліпеня паводле старога стылю).

Пра жыццё і цуды Св. Прарока Ільі пішацца як у Старым, так і ў Новым Запавеце: III і IV Кнігі Царств; Кніга Прарока Малахіі — 4, 5; Сірах — 48, 1—11; Матф. — 17; Лук. — 1, 17; Апакаліпсіс — 11, 3—12.

**С.Н.**

# ПРА МЕНШАСЦІ Ў БЕЛАВЕЖЫ

У днях 22 - 30 чэрвеня ў Белавежы праходзіў міжнародны навуковы семінар "Нацыянальныя і рэлігійныя меншасці ў Еўропе", арганізаваны Брацтвам праваслаўнай моладзі ў Польшчы.

У семінары прынялі ўдзел сябры праваслаўных супольнасцяў з Беларусі, Літвы, Вялікабрытаніі, Фінляндыі, Нямеччыны, Румыніі і Польшчы. З дакладамі выступілі навукоўцы, палітыкі, грамадскія дзеячы і царкоўныя іерархі. Падчас дыскусіі разважалася пра багацце культур неаднародных грамадскасцяў і пра цяжкасці зберажэння і развіцця самабытнай культуры меншасных груп. Але арганізатары засяродзіліся пераважна не на тэарэтычных пытаннях, а на азнаямленні гасцей з праблемамі паасобных меншасцяў у Еўропе. З увагі на месца правядзення семінара, асабліва дакладна разглядалася сітуацыя беларусаў на Беласточчыне.



*Лекцыю чытае епіскап Ерэмія.*

З вельмі цікавым дакладам - якраз адным з нешматлікіх тэарэтычных - выступіў епіскап Вроцлаўска-Шчэцінскі Ерэмія. Гаварыў ён пра стаўленне ізраільцян да чужынцаў на аснове Старога Запавету. Але нават пасля такой чыста багаслоўскай лекцыі, дыскусія датычыла перш-наперш канкрэтаў з нашай рэчаіснасці.

На семінары прысутнічала група моладзі з Менска. Супрацоўнік Акадэміі навук Беларусі Алена Яскевіч прачытала даклад пра нацыянальныя матывы ў Францішка Скарыны. Для шмат каго было адкрыццём, што ў беларусаў такая багатая гістарычная і культурная спадчына цесна павязана з праваслаўем.

На заканчэнне ўдзельнікі семінара звярнуліся да дзяржаў і ўрадаў з адозвай, у якой чытаем, між іншым: "Смерць хаця б аднае нацыянальнае культуры з'яўляецца аграмаднай стратай для ўсяго чалавецтва. Мы лічым, што нацыянальным меншасцям трэба забяспечыць права навучання на роднай мове, на карыстанне гэтай мовай у ведамствах дзяржаўнай адміністрацыі, а таксама доступ да сродкаў масавай інфармацыі".

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**

# ВЕЧАР ЦЯЖКОГА ДНЯ*

*Прыватны ліст да сябры ў Беларусь.*

Прывітанне, мілы дружа!

Калі ты чытаеш гэтыя радкі, беларускія газеты, напэўна, ужо змясцілі ўзнёслыя справаздачы агульнаадраджэнскага накірунку - пра "грандыёзнае свята беларускай песні", "дэманстрацыю беларускага патрыятызму", "сталасць беларускай рок-музыкі" (гэта значыцца, яна і самая беларуская і самая рок-музыка - даводзілася мне неяк чытаць нешта падобнае. Праўда, сэнс гэтага сцвярджэння не разумею і дагэтуль). А чытачы тых газет, напэўна, усур'ёз палічылі, што тут адбыўся калі ўжо і не другі Вудстак, дык, напэўна, нешта вельмі блізкае да яго - беларускія журналісты вельмі любяць, мякка кажучы, перабольшваць, сам ведаеш. Як ты слушна разумееш, маю на ўвазе чарговы фестываль беларускай песні "Басовішча'93", што праходзіў пад Гарадком 16-17 ліпеня.



*Яны будуць найлепшыя — "Крама" і "Мроя".*

Адразу вымушаны цябе расчараваць - ані "грандыёзнага свята", ані тым больш другога Вудстака тут не было. Зрэшты, усё па парадку.

Асабіста для мяне фэст пачаўся недзе за тыдзень - з прыездам у Беласток менскіх "Мроі" і "Новага Неба". Беларускія музыкі патрапілі сюды адразу з рок-фестывалю ў Роскільдзе (Данія), дзе прапагандавалі перад тамтэйшым аматарамі рока і піва сучасную беларускую музыку - і, як сцвярджае Лявон Вольскі, досыць паспяхова. Да пачатку імпрэзы заставалася яшчэ больш як тыдзень, і "мроеўцы" з "нованебаўцамі", не ведаючы, што рабіць, прыняліся спусташаць запасы "Wyborowej", "Żytniej" і "Koshernij" у бліжэйшай краме. Адміністрацыя гатэля на Ліповай, якая так лёгкадумна дала прытулак беларускім музыкам, толькі ціха стагнала, гледзячы на хабёльствы "artystów sowieckich". У гэты самы час па рэдакцыі "Нівы", замінаючы людзям працаваць, бадзяўся без справы А. Астраўцоў (Алесь Ас), журналіст віленскай "Нашай Нівы" - паабцёршыся па еўропах разам з музыкамі, беларускі маладаадраджэнец надакучваў усім сваімі аповядамі пра багацце дацкіх супермаркетаў і чароўны смак капенгагенскага піва.

З усім гэтым, аднак, даводзілася мірыцца - не выганяць жа калегу!

Яшчэ праз некалькі дзён на беластоцкіх і гарадоцкіх сценах з'явіўся плакат фестывалю - у блакітным беластоцкім небе лунае фалас з маленькімі, як у анёлка, крыламі. Гэткі "люфтчэляс" (плакат той - як, дарэчы, і афармленне сцэны ў Гарадку - заслуга Лёніка Тарасэвіча). Не ведаю, чыёй натурай карыстаўся ён пры напісанні, але "габарыты" (слова з лексікону "ніўскага" Сэрцайка) сапраўды ўражвалі. Афіцыйная эмблема фестывалю выклікала неадназначную рэакцыю... прабач, рэакцыю грамадскасці - гарадскія паліцыянты, што прыходзілі ў "Ніву", палічылі гэта за "абразу хрысціянскіх вартасцяў"; Юрка Каліна з "Czasopisa", скептычна глянуўшы на плакат, сказаў толькі, што не заўсёды разумее сучасны авангард (з сумам дадаўшы пры гэтым: "А можа гэта я ўжо так састарэў?.."); гарадоцкія фаны беларускага рок-н-рола на маё пытанне "Jak się wam podoba?" адказалі адназначна: "Fajowo!.."

Пэўна, ты ўжо стаміўся ад калямузычнай прэлюдыі, а таму пераходжу непасрэдна да фестывалю.

Недзе а восьмай гадзіне вечара ў Барык панабілася процьма беластоцка-гарадоцкіх меламанаў і півапойцаў, на сцэну выйшлі Лёнік, Маргарыта Пракапюк (яны надалей і трымалі рэй на імпрэзе), а таксама Сакрат Яновіч. Сакрат з Лёнікам адразу ж на сцэне адкаркавалі пляшку шампанскага, абліўшы пры гэтым усіх, хто стаяў паблізу, і фэст распачаўся.

Адкрываў "Басовішча" менскі "Камелот". Пісаць пра музычныя вартасці групы проста не хочацца - кампазіцыі, можа задуманыя і цікава (гэткі беларускі варыянт "Джэтра Тала", з альтам і флейтай, з тэкстамі, навеянымі сярэднявечнай вальтэрскотаўскай рамантыкай на беларускі манер) не былі пададзеныя, як мае быць. Зрэшты, вакаліст Зміцер Сідаровіч увесь час скардзіўся, што выступленне "запароў" гукарэжысёр - хутчэй, яго адсутнасць. Той жа Сідаровіч сцвярджае, што іх музыку лепш слухаць не ў канцэртным варыянце, а ў студыйных запісах. Магчыма... Шчыра кажучы, хлопцаў проста шкада. Але, думаю, калі гурт не распадзецца, можа праз які час з яго штосьці і атрымаецца.

Гайнаўскі гурт "Швэё" - ён выступаў надалей - уразіў слухачоў перш за ўсё небанальнасцю тэкстаў: хлопцы шчыра, ад усяго сэрца пасылалі слухачоў на той самы фалічны сімвал, які быў эмблемай "Басовішча". Пасля цнатлівых "камелотаўскіх" тэкстаў гэты імператыў успрымаўся досыць эпатажна. Зрэшты, тая фраза, напэўна, і сталася мо адзінай мастацкай адметнасцю "Швэё"...

Наступная група спявала па-польску і, пэўна, з тае прычыны асабіста мяне не ўразіла - каб не марнаваць часу, я пайшоў піць піва. Дарэчы, пра гэта трэба сказаць асобна: піва і гарэлкі было мора разліўное (праўда, гарэлкай на "Басовішчы" не гандлявалі, але многія папрыносілі яе з сабой, а хто забыўся, мог тут жа набыць яе ў нейкіх савецкіх гандляроў, якія невядома як патрапілі на фэст). Думаю, што грошай, патрачаных публікай на алкаголь, хапіла б на правядзенне яшчэ аднаго фестывалю - нават з удзелам Міка Джагера ці Філа Колінза (пры ўмове, што яны бы падрыхтавалі некалькі песень і па-беларуску).

Беластоцкі "Кір-оф" прыемна здзівіў добрай беларускай мовай тэкстаў і дасканалым валоданнем інструменарыямі (асабіста мне спадабаўся сола-гітарыст). Прынамсі, на фоне вышкталцоных беларускіх музыкаў "кір-офцы" выглядалі вельмі прыстойна.

Гродзенскі бард Віктар Шалкевіч прывёз на "Басовішча" праграму з двума праверанамі хітамі - "Добрай раніцы, жлобская нацыя!" і "Ганка, дзеўка з Пагулянкі" - гэтакае стылізаванае танга. Бард быў сустрэты вельмі прыхільна, публіка млела, але ў Шалкевіча не было галоўнага, дзеля чаго народ ходзіць на падобныя імпрэзы - "czadu".

"Czadu" дала "Крама" - па майму разуменню, сёння - гурт № 1 у Беларусі. І цяпер, пасля імпрэзы, прыемна ўспомніць, як зухавата мы танчылі з Янам Максімюком і Альжбетай Бэзюк перад сцэнай... Сапраўды - "czad"! "Крама" абсалютна заслужана атрымала прыз аднаго з арганізатараў - Гарадоцкай гміны. На маю прыватную думку, на 90 % гурт гэты абавязаны сваім поспехам выключна своеасаблівай індывідуальнасці Ігара Варашкевіча - не было б яго, група, хаця і мае падбор тэхнічных выканаўцаў, успрымалася б досыць ардынарна. Зрэшты, ты, канечне, можаш і не пагадзіцца са мною...

"Новае Неба" з Касяй Камоцкай прывезла на Басовішча старыя надзейныя песні на вершы Анатоля Сыса і Адама Глобуса, праўда - у новай аранжыроўцы. Пэўна, за гэтыя новыя аранжыроўкі "НН" і атрымала прыз за "авангардныя пошукі ў рок-н-роле" - прыз уручыў "нованебаўцам" мінулагодні лаўрэат - "Уліс", і як мне падалося - толькі дзеля таго, каб не аддаць яго больш вартай "Краме"...

"Мроя", узмацнёная выдатным гітарыстам Віктарам Смольскім, парадавала файнай песняй "Мы любім" - па ўсяму відаць, што неўзабаве яна зойме сталае месца сярод хітаў "Беларускай маладзёжнай" (адно пры ўмове, калі Лявон Вольскі да таго часу не памрэ ад нястачы ранішняга піва).

Не ведаю, як каму, але асабіста мне "Уліс" гэтым разам падаўся сумнаватым - і гэта пры тым, што гук у гурта быў найбольш якасным з усіх, хто выступаў на "Басовішчы". Прыгнятае аднастайнасць і стандартнасць аранжыровак і стылю - уражанне, што музыкі ўвесь час граюць адну бясконцую песню, толькі падзеленую на кавалкі і пададзеную з рознымі тэкстамі і пад рознымі назовамі... А мо гэта з-за таго, што я іх досыць доўга слухаў? Ці проста не дабраў патрэбнай дозы допінгу...

Усё, што я пішу табе - меркаванні чалавека, ацяжаранага ранішняй смагай, уласнымі комплексамі і вышэйшай музычнай адукацыяй. Зрэшты, па-мойму я і так досыць падрабязна для прыватнага ліста апісаў "Басовішча". Так што напрыканцы зноў паўтаруся: не вер хлуслівым артыкулам ані пра "беларускі Вудстак", ані пра "свята дэманстрацыі беларускага духу". Не, свята было сапраўды, але не спецыфічна беларускае, а, я б сказаў, сямейнае. І публіка была надзвычай задаволеная. Уяві: маленькая гміна, цяжкая аднастайная праца (калі яна ёсць, бо тут не бракуе беспрацоўных), ідыятызм вясковага жыцця, заўсёдная праблема "куды падацца ў вольны час" увечары цяжкога дня, і тут раптам - такі фэст! І было ўсё: добрая музыка на пабытавым узроўні, класныя выканаўцы, прывабныя паненкі патрэбнай полаваспеласці, якаснае піва, "czad" і мат - што яшчэ трэба для нармальнага адпачынку? Шкада толькі, што ў арганізатараў не было дастаткова грошай для правядзення падобнага фэсту дзе-небудзь у Беластоку...

З найлепшымі зычэннямі -

**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**
**19 ліпеня 1993 г.**
**г. Беласток**

P. S. Хацеў была заклеіць канверт, як згадалася: параўнальна нядаўна ў вас у былой БССР, у Маладзечне было наладжана бессэнсоўна-пачварнае "мероприятие" пад шыльдай "свята беларускай музыкі і паэзіі", якое ні ў воднага нармальнага чалавека не выклікала ані думак, ані пачуццяў. Бачыў я той фэст па тэлевізіі - наменклатурныя музыкі, наменклатурныя выканаўцы, наменклатурныя паэты. Звычайны набор "урадавага канцэрта" - падобныя яшчэ некалькі гадоў таму прысвячаліся чарговаму з'езду КПБ ці Дню Савецкай міліцыі. Толькі шыльду памянялі - маўляў, "жыве Беларусь!.." Але добра, халера з імі, хочуць пладзіць чарговых імперскіх пачвар (толькі з беларускім ухілам) - хай пладзяць, калі ў дзядзкоў з "падведамасных установаў" ні на што іншае фантазіі не стае. Толькі вось грошай шкада: далі б іх таму ж Лёніку на правядзенне чарговага "Басовішча" - думаю, што карысці ад гэтага было б значна больш. У тым ліку і для беларускай песні, пра якую розныя дзядзькі ды цёткі - арганізатары і натхняльнікі падобных фэстаў - так пякуцца...

**УЛ. А.**
**фота М. Лукшы**



*Пачалося! Арганізатары могуць на хвілінку прысесці...*

---

* Назва дыска "Бітлз".

*БАРЫС РУСКО*

*— гэта новае паэтычнае імя, якое апошнім часам з'явілася на старонках „Нівы". Зацікавіў ён нас сваім небанальным светабачаннем, начытанасцю, дбайнасцю пра дакладнасць слова і фразы, чысцінёю беларушчыны; урэшце і мастацкай самасвядомасцю. Ведаем, што жыве ў Белавежы. І, што пісаў ужо здаўна, а выступіць у друку дапамог яму добры анёл нашага літаратурнага асяроддзя, менавіта Юрка Валкавыцкі, таксама белавежанін.*
*Публікуем нізку твораў Барыса Руско, выбраных з нядаўняй пошты.*

**С.Я.**

**СЯРОД ЛУГУ**

Тую красу лашчу сэрцам і душою.
Я ў зялёным буянстве пеўчай травіны.
І ў белі я,
і ў жоўці,
і ў чырвані,
і ў блакіце кветак,
што на падмостку майго ўяўлення
выступаюць мадэлькамі
ў непераўзыдзеных строях.

І ў музыцы я,
якую толькі далонь Генія
здольная распальваць і гасіць
святло дня.

Якая бедная мова людская!
Стаю сярод лугу
і не магу перадаць паэзіі гэтай.

**ФАТАГРАФІЯ**

Застылы свет.
Вокаімгненная жывая хвіліна.
Час-віхар, як уздыблены конь, замятае ўсё.
На паперы цень праўды неацэннай.
Гэта я паўвеку назад.
Не веру. Не веру, што я калі-небудзь быў дзіцём.
Не веру, што жылі Тыя,
якія ўсміхаюцца цяпер на фатаграфіі.

**НАПАМІН**

Не забівай незакончаныя формы —
можаш забіць дабро.

Не забівай неаперанае птушаня —
можаш забіць арла.

Не забівай невыказанае слова —
можаш забіць непаўторнасць.

Не забівай людскія ўваходы ў сябе —
можаш забіць хвіліну радасці.

Не забівай плачу, што збірае нектар —
можаш забіць насалоддзе зямлі.

Не забівай, бо можаш забіць самога
сябе.

**ПРАМІНАННЕ**

Між двума нулямі ёсць лік. Прыбавілі.
Ёсць лікі.
Між двума нулямі ёсць прорва. Засыпалі.
Узнікла гара.
Між двума нулямі ёсць цемра. Асвятлілі.
Стала святло.
Між двума нулямі ёсць пустка. Напоўнілі
да краёў.
Між двума нулямі ёсць прамая, з якой відно і чутно.
Па-за гранню двух нулёў ёсць лік. Не.
Ёсць лікі.
Ёсць прорва. Не.
Ёсць гара.
Ёсць цемра. Не.
Ёсць святло.
Ёсць пустка. Не.
Ёсць паўната.
Па-за гранню двух нулёў ёсць крывая, з якой відно і чутно.
Два нулі ў сабе.
Лікі ў сабе.
Прорва і гара ў сабе.
Цемра і святло ў сабе.
Пустка і паўната ў сабе.
У сярэдку двух нулёў ёсць пункт, з якога відно і чутно.

*ФРЫДРЫХ ГЁЛЬДЭРЛІН*
*(1770-1843)*

**ПРОСЬБА АБ ПРАБАЧЭННІ**

Прасвятая мая! як жа часта
Залаты, боскі твой парушаў я спакой,
І скрываную бездань пакутаў жыцця ты спазнала
Неаднойчы разам са мною.

О, даруй і прабач! — саступаю ўжо месца я,
Быццам воблака маладзіку; ну, а ты, прыгажосць,
У чароўным зацішшы
Йзноў заззяй, о цудоўным святлом!

*З нямецкай мовы пераклаў*
*ЮРЫ ТРАЧУК*

*СЛАВАМІР АДАМОВІЧ *)*

**ФАЙНА**

Файна, што столькі ватовак сцягаўшы
змог я нарэшце купіць гарнітур,
чорны капелюш і вузенькі гальштук,
скрып чаравічны ды плашч і каптур.
Файна, што ўрэшце сабе я дазволіў
снеданне ўранні, нармальны абед,
зрэдчас — вячэру, і крыху сваволі,
радасці жменьку і жменьку манет.
Файна, што восень, што мілыя твары
почасту бачу ў пакоі маім,
файна, што здуру не трапіў на нары,
файна, што грэе мне ногі кілім.
Файна, калі нарачанскія сосны
помніць я здольны ў лайне гарадоў,
файна, як файна, о Божа мілосны,
меці надзейных і мужных сяброў.
Файна, калі дастаткова ў каханні
цёплага позірку, еднасці душ,
смеху крывіцкай дзяўчыначкі Фані —
файна, калі апантанасцю дуж.
Файна а трэцяй гадзіне уночы
перш напісаўшы, прылегчы й заснуць,
сон сабе высніць пад ранне прарочы...
Файна, калі твае песні пяюць!

* * *

Сайку белага хлеба
ем з табой сухама.
Ты дзяўчына што трэба,
ты ўсё робіш сама.
Колькі марыў я, люба,
пра такую, як ты;
колькі лаяўся груба,
нарабіўшы лухты;
колькі выхадзіў шляхам,
дзе адна гавыла,
дзе распалася прахам
не адна галава.
Ах, дзяўчыначка-ліха!
Ах, дзяўчына-краса!
Ты любі мяне ціха,
як зямельку раса.
Ты любі асцярожна,
асцярожна жартуй —
на травіцы мурожнай
ты мяне намалюй.
Сайку белага хлеба
мы аднойчы з'ямо
і адправімся ў неба,
як бы там ні было.

**МАЛІТОЎНА**

Не прыйду да цябе больш. Бачыць не буду. Знікну з воч тваіх. Пракляну-закляну. Знелюблю. Зненавіджу...
А ты ў снах пад раніцу пастукаеш ля весніц сэрца, каханнем сцягата. І адчыніцца табе — зойдзеш, дзёрзкая. І сон не сон — на зарокі забудуся. Абачнуся — да рук тваіх пабягу, як цюцька. Бо кахаю.

---

**) Творы Славаміра Адамовіча — ці не ўпершыню наогул? — з'явіліся менавіта на старонках „Нівы", яшчэ ў васьмідзесятыя гады. Сёлета выдаў ён сваім коштам у Полацку невялікі зборнік „Зямля Ханаан", з якога друкуем тры творы, розныя не столькі тэматычна, колькі якраз стылем мастацкага запісу.*

*АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК*

**ДЗЯЎЧЫНЕ З ПАЎСВЯТЛА**

кароль цябе
не пацалуе
кароль не можа
цалаваць
хаця ў душы
цябе шануе
таму што ўмееш
так спяваць

дурань табе
не кіне верша
бо дурню нельга
літаваць
хаця ў яго
была ты першай
хаця умееш
так спяваць

паэт цябе
не пакахае
паэт не знае
як кахаць
ён смерці
толькі прычакае
і будзеш ты
яму спяваць

і толькі песня
табе парай
з ёй толькі
будзеш успамінаць

*ВІКТАР ШВЕД*

**МАЕ ПАЖАДАННІ**

Калі жыцця сумую шлях
У сваю восень, на змярканні,
На яве мару я і ў снах,
Каб споўніліся пажаданні.

Каб я, сівенькі галубок,
Пісаць не развучыўся вершаў
І каб паставіў яшчэ крок
У век наступны — дваццаць першы.

Каб надыходзячы той век
Шчаслівы быў і быў спакойны,
Каб больш ніколі чалавек
Не знаў галечы, гвалту, войнаў.

Каб сцвердзіў ён, што Віктар Швед
На гэтым свеце жыў не дарам,
Людзям пакінуў скромны след
У сваіх вершах з сэрца жарам.

*ЗОСЯ САЧКО*

* * *

а на вэсну
клуню сонцэм покрыем

пока мак цьвітэ на городі
грыэют днiэ як огонь

а на осэнь — думкі звэзэм
ціэлэ жыцэ згорнэм в кулак

# ПАДАЛЯНСКІМІ СЦЕЖКАМІ (2)

*(працяг, пачатак у папярэднім нумары)*

Вяртаемся да скрыжавання і накіроўваемся ў Падаляны Другія. У самой вёсцы з дарогі збочваем налева. Увагу прыцягваюць вялікі праваслаўны крыж (падобны знаходзіцца на скрыжаванні ў Падалянах I) і буслінае гняздо на энергетычным слупе. На гэтай вуліцы знаходзіцца дом Барыса Руско (н-р 27), у якім жывуць яго бацькі, тутэйшыя старажылы, 96-гадовы Емяльян і 87-гадовая Надзея. Дамаўляемся, што візіт нанясем ім пасля нашай экскурсіі. І вось, мы з вуліцы выходзім на поле.

— Перад намі, — гаворыць праваднік, — урочышча *Барэзіна*. Бярозаў тут, праўда, ужо няма, але некалі яны раслі, апошнія я сам памятаю. Далей маем *Буслы*. У XIX ст. рос тут яшчэ дуб, на якім буслы зрабілі гняздо. Урочышча гэтае, праўду кажучы, з'яўляецца часткай іншага, большага, якое называем *Полько*. За *Польком*, побач *Бабскай гары*, знаходзіцца *Выруб*. У ім у міжваенны перыяд яўрэй Шэрман збудаваў прыватны тартак. Ідучы далей, на поўнач, натрапілі б мы на луг *Тураўка*. Кажуць, што там, быццам яшчэ ў XVII ст. вадзіліся туры. Вяртаючыся — налева, з *Барэзінай* мяжуе *Сердні поплоў*, а з *Буслямі* — *Нандаткі*.

— Хіба *Наддаткі*? — уваходзіць у слова Сяргей.

— Не, я не памыліўся, — адказаў яму на тое Барыс. — У нас так менавіта вымаўляюць старэйшыя людзі.

*Полько* перасякае невялікая рэчка. Яна бярэ пачатак у лесе і ўпадае ў Нараўку. Назвы не мае. Людзі так і гавораць — *Рэчка*. Найбліжэй да нас *Бракі*. Барыс кажа, што зямля тут вельмі неўраджайная, а ўдадатак у ёй жыве шмат мядзведкі звычайнай (turkuć podjadek). Направа з *Бракамі* мяжуе невялікая даліна, якую мясцовыя называюць *Парагонам*, значыць пераходным месцам. Насупраць забудовы Падалянаў II знаходзіцца ворная зямля, назывaна *На просто дому*. Гэтае ўрочышча нейкім чынам з'яўляецца прадаўжэннем *Аселіцы*.

— Злева ад *На просто дому*, — прадаўжае Барыс, — маем *Маргі*. Тут кожны жыхар меў па моргу зямлі (0,71 гектара). *Маргі* даходзяць да рэчкі і пераўтвараюцца ў луг *Горкі*. — Якія там горкі? — смяецца Сяргей, — я не бачыў ніводнай.

— Вось, менавіта тое самое сказаў я некалі свайму дзеду Антону, — Барыс на тое. — І ён мне растлумачыў, у чым справа. У гэтым месцы дзвесце гадоў назад выпальвалі яшчэ вугаль з драўніны. Потым, як ужо з гэтым закончылі, асталіся тут горкі вугалю і ўсялякіх адпадкаў. Зямлю з гэтага месца ахвотна бралі падалянцы для ўгнойвання сваіх агародчыкаў. Бралі, бралі, аж і горкі пазнікалі.

Ідзем утраіх праверыць месца. Тыповы поплаў, але калі да яго прыглядзецца, можна ўбачыць сляды па чатырох мелях. Сяргей мерае крокамі шырыню найбольшага — выходзіць 20. Падымаем дзёран. У чорнай, як смала зямлі без цяжкасцей знаходзім кавалачкі вугалю.

— Ведаеце, — кажу сябрам, — гэта сенсацыя! Ніякая крыніца не падае, што на Белавежскай паляне выпальвалі вугаль. Нават праф. Фалінскі, які нярaз перагледзеў паляну, не натрапіў на гэты след.

Праз некалькі тыдняў мы даведаліся ад Уладзіміра Дацкевіча з Крыжоў, што на Белавежскай паляне ёсць яшчэ адно такое месца. Яно знаходзіцца ў Крыжах, ва ўрочышчы, якое называюць *Палетак пад лесам*. Мы гэту інфармацыю праверылі — вынік быў станоўчы.

— Поле на другі бок рэчкі, — спыняе нашыя роздумы Барыс, — называецца *За горкамі*. А калі ўвойдзем у лес, апынемся ў *Глубокім альсе*. Там мокра і без адпаведнага абутку не ўвойдзеш. За альсом натрапілі б мы на *Могліцы*. У гэтым месцы ў 1911 г. людзі закопвалі хатнюю жывёліну, якая здыхала ад вялікай засухі.

— А ведаеце, — ускліквае Сяргей, — жывёліны моглiцы знаходзяцца і на застаўлянскім полі. Недзе паміж урочышчам *Тры загоны* і чыгуначным палатном ёсць месца, якое называецца *Конскія могілкі*. Відаць, там коней хавалі.

— А я ведаю яшчэ пра адно месца, — кажу сябрам. — Некалі гаварыў мне памёршы ўжо Аляксандр Бушко са Стачка, што перад I сусветнай вайной здохлую жывёлу стачкавы вывозілі ў *Каманный багон*.

Накіроўваемся уздоўж рэчкі ў бок лесу.

— Тут, пад лесам, — кажа Барыс, — маем *Выган*. Гэты менавіта кусок луга падалянцы, пасля I вайны, выдзялілі на адкорм худобы. Частку луга, якая цягнецца за рэчку і ўпіраецца ў лес, называем *Куты*. Пад самай сцяной лесу, па абодвух баках рэчкі цягнуцца невялікія ўчасткі зямлі, якія былі надзелены падалянскім мужыкам удадатак. Мы іх называем *Астанкі*.

Выходзім на дарогу ў тым месцы, дзе яна ўваходзіць у лес.

— Ну, і наша вандроўка набліжаецца да канца, — каржа Барыс. — Скажу вам яшчэ, што дзялянку зямлі налева ад дарогі называем *Сергееў агарод*. Тут некалі стаяла гаёўка, у якой жыў гаёвы Сяргей Шпаковіч. Яна была ліквідавана да I сусветнай вайны. На правы бок дарогі маем жа *Асіны* — гэта канцы ўрочышчаў — *На пецёх*, *На трох* і *На штырох*. Лес, які цягнецца адсюль у напрамку Грудак, называем *Рылёўкай*. Мой дзед гаварыў, што за цара ён лічыўся запаведным.

Вяртаючыся, Барысу ўспомнілася, як дзед яму некалі паказваў месца на полі на правым баку дарогі, менш-больш пасярэдзіне, дзе ў царскія часы стаяла павець, у якую падалянцы пасля жніва передавалі частку зерня з той мэтай, каб таму, каму навесну не хопіць яго на пасевы, мог паратавацца. Цікавы гэта прыклад мужыцкай самапомачы. Наш праваднік напомніў і тое, што падалянцы аралі поле валамі да пачатку XX ст. Апошні вол пратрымаўся да выбуху I сусветнай вайны.

І вось, мы ўжо ля дома спадарства Руско. Перад уваходам у яго дазнаемся, што насупраць яго, у міжваенны перыяд, стары яўрэй Кушэль з сынам Юдэлем, трымалі спажывецкую краму.

Мы, вядома, гаворым пра мінулае. На развітанне прашу сп. Емяльяна назваць прозвішчы карэнных падалянцаў, якія зараз тут жывуць. Дзядуля пералічвае: — Байкі, Ліцкевічы, Падлашчукі, Казакі, Вашкевічы, Хілецкія, Пекачы, ну, вядома, Рускі. Раней жылі яшчэ Пісарэвічы і Мацуты, але ўжо звяліся.

Я і Сяргей развітваемся са спадарствам Руско і дамаўляемся на наступны візіт.

**ПЁТР БАЙКО**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**РЫБНЫЯ КНЭДЛІ**

Прадукты:
*1 кг рыбных філеяў (лепш, каб была саладкаводная рыба),*
*1—2 цыбуліны*
*жменя пячурыц ці лісічак,*
*каля 3/4 шклянкі смятаны,*
*соль, перац, лімонны сок,*
*алей.*

Чацвертую частку філеяў дробна пасячы. Астатнюю рыбу прапусціць праз мясарубку, заправіць па смаку і вымясіць з такой колькасцю смятаны, каб атрымалася гладкае, даволі густое цеста.

Пасечаную рыбу, цыбулю і грыбы падсмажыць на алеі, заправіць па смаку. З рыбнага цеста зрабіць блін. Палажыць на яго фарш. Зрабіць шар. Загарнуць яго ў сцірачку, завязаць і гатаваць у кіпецені паўгадзіны.

Тады выняць з вады, астудзіць, адгарнуць сурвэтку, парэзаць. Падаюць гэту страву халоднай з хрэнам і зялёнай цыбулькай або з халодным хрэнным соусам.

**ГАСПАДЫНЯ**




## ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

**ЧАСТКА V**

Іак, здаецца мне, што заключэнне вайсковага саюза з Расіяй пагражае многімі небяспекамі. Калі б нават у вайсковым трактаце знайшлася агаворка адносна таго, што беларускія салдаты не будуць удзельнічаць у ваенных аперацыях па-за межамі Беларусі, то магчымасць уцягнення беларусаў у такія аперацыі будзе заўсёды рэальная пры існаванні такога трактату. Апрача гэтага, у выпадку заключэння вайсковага саюза з Расіяй руская армія напэўна атрымае магчымасць дыслацыравацца ў Беларусі, што пагражае многімі эканамічнымі і палітычнымі небяспекамі.

Калі думаю аб вайсковым саюзе з Расіяй, прыходзяць мне ў галаву і іншыя рэмінісцэнцыі. Вядома, што трактаты, пакты, саюзы заключаюцца наогул паміж дзяржавамі або структурамі, якія з'яўляюцца больш-менш раўнапраўнымі або, прынамсі, падобнымі ў юрыдычным аспекце. Гэты прынцып павінен брацца пад увагу і ў выпадку вайсковага саюза Беларусі з Расіяй. А як гэты аспект справы выглядае паміж рускай і беларускай дзяржавамі, асабліва паміж рускім і беларускім войскамі? Выглядае так, што існуе ў далейшым магутная руская армія, але няма беларускай арміі. Няма беларускамоўных генералаў, няма беларускіх вайсковых рэгламентаў, няма беларускіх каманд, няма беларускіх вайсковых песень і няма беларускага вайсковага духу, без якога не можа быць войска. У Беларусі ёсць рускае войска, а гаворачы дакладней, савецкае. Сувязі з савецкай і рускай рэчаіснасцю праяўляецца, між іншымі, у савецкіх гербах, зорках з серпамі і молатамі — якія носяць на шапках усе салдаты тых вайсковых падраздзяленняў, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі. У сувязі з гэтым я не разумею, што ж гэта за вайсковы саюз беларускай і рускай арміі, калі беларускай арміі няма, а ёсць толькі дзве фармацыі адной і той жа самай рускай арміі. У такой сітуацыі можа быць гутарка аб тым, што руская армія з Расіі заключае саюз з рускай арміяй з Беларусі. Ці ж можна мець надзею, што тая армія, якая дыслацыруецца ў Беларусі, будзе мець якую-небудзь самастойнасць і незалежнасць? Ці ж гэтая руская армія з Беларусі ў стане сказаць, што яна не будзе прымаць удзелу ў якіх-небудзь аперацыях у Сібіры, Татары, Абхазіі або Азербайджане?

Адзін вайсковы пілот-беларус гаварыў, што ён асабіста пераганяе з аэрадромаў у Беларусі найбольш сучасныя і дарагія самалёты на аэрадромы ў Расію. Калі я яго спытаў, ці здараюцца выпадкі, каб узоры найбольш сучаснай і дарагой зброі перавoдзіліся з Расіі ў Беларусь, ён адказаў, што такіх выпадкаў абсалютна няма. Самалёты, а таксама іншыя найбольш сучасныя машыны, — сказаў ён, не толькі папаўняюць узбраенне арміі ў Расіі, але і прапануюцца Расіяй на продаж іншым краінам свету.

Калі б беларуская армія хаця б у малой ступені была арміяй нацыянальнай і самастойнай, ніколі не дазволіла б, каб найбольш сучаснае яе узбраенне перавозілася ў іншую дзяржаву, якая папаўняе ім уласнае узбраенне або прадае трэцім краінам.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Д'ЯБЛЫ

☛ *Працяг са стар. 4*

Камуністы-ленінцы паставілі сабе і сваю партыю па-над мараллю. „Мараль на толькі тое, што карысна для рэвалюцыі", — казаў Ленін. Тэрарыстамі былі раней народнікі, эсэры, іншыя рэвалюцыянеры-бязбожнікі. Стаўшы на шлях забойства і адкінуўшы хрысціянскую этыку, яны не пазбавіліся, аднак, хрысціянскай псіхалогіі. Адсюль раскаянне некаторых, мукі сумлення, адчуванне цяжару граху ці адкладанне замаху, каб не пацярпелі жанчыны і дзеці і г.д. Рэвалюцыянеры-ленінцы знялі гэтую супярэчнасць паміж псіхалогіяй і этыкай, адмовіўшыся ад хрысціянскай маралі. Дакладней, прыняўшы сатанінскую антымараль. Аказваецца, можна было масава знішчаць людзей і бясклапотна смяяцца, любавацца пейзажамі, мастацтвам, займацца палітыкай, літаратурай, фліртам і спакойна спаць. Асабліва гэта стала проста, калі па тваіх загадах забівалі іншыя.

Не богазмаганне, не цынічнае бага-хульства, а менавіта пазбаўленне ад маралі і ад культуры сведчыць пра сатанізм бальшавізму. Усёпаглынаючым сурагатам маралі стала ў бальшавікоў хлусня, грандыёзная і шматаблічная, страшная, нябачаная дасюль, незразумелая. Яны перасталі быць людзьмі ў хрысціянскім сэнсе слова; гэта сапраўды рэвалюцыя ў свядомасці, крок назад, але нават не ў дзікунства, не ў арду, а ў асэнсаванае зло, у зло як светапогляд, як феномен сусвету.

За ленінізмам і ідэямі бальшавізму няма нічога гістарычна-сэнсоўнага, штоб было хоць як абгрунтавана жыццём і патрэбамі развіцця, акрамя волі да ўлады любымі спосабамі. Карэнні іх ідэй і паводзін я знаходжу ў масоншчыне, у розных сатанінскіх вучэннях, ерасях і арганізацыях. За бальшавікамі стаяла апраметная і пекла ішло за імі.

Бальшавізм не ў стане змяніцца, бо не можа пакаяцца. Для пакаяння патрэбная вера ў Бога, сумленне і хрысціянская мараль. У бальшавізме відаць зафіксаваны пераход (этап) да д'ябальшчыны на Зямлі. Гэта значыць, да такой эманацыі духу, што па прыродзе сваёй не ў стане тварыць дабро і нічога, акрамя зла.

Бальшавізм склаўся як нерэфармуемая, нязменная ідэйна-псіхалагічная сістэма разбурэння і зла. З ёй нельга супрацоўнічаць. Ёй нельга даравяць. Яе трэба ізаляваць, як ізалюе арганізм балячку на целе.

Формула вышэйшага хрысціянскага даравання тут не падыходзіць. Езус дараваў бандыту на крыжы. Але, па-першае, бандыт перад смерцю пакаяўся. Па-другое, гэта быў проста чалавек і грахі яго былі чалавечыя. Найвышэйшая Божая справядлівасць у тым, што д'ябал (Шатан) будзе пакараны, і слугі яго. Д'яблам дадзена свабодная воля тварыць зло, але даравання ім няма. Езус ніколі, нідзе і ў нічым не дараваў цёмнай сіле.

Прыйдзе час, і савецкі камунізм будзе пакараны. Прырода патрабуе раўнавагі. (У тым ліку і грамадства — сацыяльна-культурная прырода). І там, дзе яна парушана, абавязкова адбываецца рух, імкненне да ўстойлівасці. Гэта планетарны працэс. Вось толькі як, за які час, якім коштам — шмат залежыць ад людзей, ад таго, як здолеюць людзі разабрацца, выцерпець тое, што наканавана, і зрабіць тое, што трэба. Такое пытанне цяпер стаіць перад нашай нацыяй і кожным чалавекам.

**ЗЯНОН ПАЗНЯК,**
**старшы навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі Акадэміі навук, народны дэпутат Беларусі.**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*ВАСІЛЬ ВІТКА*

### КАЛЫХАНКА БУСЛІХІ

Як малых паклалі спаці
І заціхла ўся буслянка,
Доўга ім співала маці
Сваю песню-калыханку:

- Спіце, дзеткі, лю-лі, лю-лі,
Вераб'і даўно паснулі.
Ад іх шуму дзень у дзень
Галава ажно гудзе.

Колькі бацьку я прасіла:
Тут твая улада, сіла -
Выкінь ты з гнязда іх транты,
Нам не трэба кватаранты.

Нанасі ты з лесу веццяў
І залатай плот дзіравы,
А то вельмі ж нашы дзеці
Любяць смелыя забавы.

Проста і не зводзь з іх вока -
Забываюць, што высока,
Могуць скінуцца дадолу.

Трэба дом зрабіць нам шырай,
І як скончаць дзеці школу,
Рыхтавацца ўсім у вырай,
Каб тут мерзнуць не прыйшлося,
Як надыдзе тая восень.

Стануць мае дзіцяняткі,
Стануць мае бусляняткі
Хутка на даўгія ногі,
Каб шукаць свае дарогі.

Цераз моры, цераз рэкі,
Цераз горы і даліны
Шлях пракладзены спрадвеку,
Доўгі, цяжкі шлях бусліны.

Дзе цячэ блакітны Ніл
У спякотлівым Егіпце,
Нас глытае кракадзіл,
Тыгр хапае ў свае кіпці.

Гіне шмат буслоў па свеце,
Але мы і нашы дзеці
Вернемся ў сваю хаціну,
Прыляцім зноў на радзіму...

Моцна спалі бусляняты
У цяпле бацькоўскай хаты.
Всяў з цёмнае дубровы
Лёгкі ветрык вечаровы
І спакойны сон бусліны
Калыхаў на верхавіне.

*ХВЕДАР ГУРЫНОВІЧ*

### У КАГО ЯКІ ХВОСТ

А ці знаеш, хлопчык, ты,
Як звярыныя хвасты
Называюцца?
Не знаеш?
Ну, тады давай сюды.

У сабакі-ганчака,
Што ў дзядулі ты гукаў,
Хвост - правіла,
Ён ім правіць,
Як ганяе вепрука.

У лісіцы - хвост-труба,
І яна яго раба:
Начапляла ў хвост калючак
І спрабуе абабраць.

Хвост заечы не расце,
Толку ў гэтакім хвасце,
І хаця завецца кветкай,
Ды ніколі не цвіце.

Цераз пушчу -
"Шчоўк" ды "шчоўк" -
Хвост-палена носіць воўк.
Доўгі, пруткі хвост ваўчыны,
У хвастах ён знае толк.

Ну, запомніў ты цяпер? -
Мае хвост усякі звер.

Хвост-правіла - ў ганчака,
Кветка-хвост - у зайчука,
Хвост-труба
Ва ўсе часы -
Ну вядома - у лісы.
У ваўка - палена.
Так?
Намалюй, калі мастак.

*На "Басовішчы" ў Барыку каля Валілаў.* **Фота М. Лукшы**

## КЛАРА

У падвале шматкватэрнага дома жыве бабрыха Клара. Для яе адгароджана і абсталявана даволі прасторнае памяшканне. Уваход асобны. На дзвярах вісіць замок. Адна з унутраных сцен уся з тоўстага вітрыннага шкла. Праз яго можна наглядаць за жыццём Клары.

Ключ ад замка знаходзіцца ў Надзеі Малюцінай, навуковай супрацоўніцы запаведніка, якая жыве на першым паверсе дома. Яна корміць і даглядае звярка.

Разам з Надзеяй Уладзіміраўнай я наведаў Клару. Яна ведае сваё імя і адгукаецца на яго, а можа, на знаёмы голас. Калі Малюціна бярэ Клару на рукі і гладзіць па чорнай спінцы, тая туліцца да жанчыны, пазірае на яе чорнымі бліскучымі вочкамі, круглымі, як гузікі. Яна трымаецца маленькімі чорнымі лапкамі за рукаў і ціха, пяшчотна лашчыцца:

- М-м-м-м...

Так бабрыха выяўляе сімпатыю, дружалюбную прыхільнасць да сваёй апякункі.

Калі Клара чым-небудзь незадаволена ці напалохана, яна гучна шыпіць:

- Шу-шу-шу-шу...

Альбо:

- Ш-ш-ш-ш-ш... З галля, якое ёй прынеслі, Клара пабудавала хатку-будан. Пабудова нагадвае звычайную бабровую хатку, якіх шмат і на Бярэзіне, і на Сергучы, і на Смолінцы, і на Бузянцы, і на іншых рэчках запаведніка.

Не задаволіўшыся хаткай, бабрыха выкапала сабе яшчэ і нару ў кутку памяшкання, дзе была зямля. Але спіць яна не ў хатцы і не ў нары, а ў... кардоннай скрыні. Купаецца Клара ў ванне, напоўненай свежай вадою.

- Чорная яна не таму, што маладая, - расказвае Надзея Уладзіміраўна. - У каштанавых бацькоў і маленькія бабраняты каштанавыя, у рыжых - рыжыя. Клара належыць да рэдкіх у нас чорных баброў.

Як жа трапіла чорная бабрыха ў падвал дома?

Прывезлі яе ў запаведнік, як я дадаўся, з Полацка. Там яна жыла ў кватэры.

Здарылася гэта так.

Сям'я аднаго службоўца з Полацка прыехала неяк адпачыць у вёску. Там, на беразе невялікай рэчкі, дзеці знайшлі малое, бездапаможнае бабраня, якое заблыталася ў водарасцях і ледзьве дыхала. Дзеці пашкадавалі звярка, ачысцілі ад водарасцей і забралі з сабою ў горад.

Калі Клара вырасла, узніклі непрадбачаныя цяжкасці. У бабрыхі раслі зубы, і ёй абавязкова трэба было што-небудзь грызці. У першую чаргу яна ўзялася за мэблю. Грызла вострымі зубамі ножкі сталоў, крэслаў. Грызла дзверы, падваконні. І грызла вельмі дбайна, як гэта ўмеюць рабіць толькі бабры, нястомныя будаўнікі. Не грызці дрэва яны не могуць. Інакш будуць расці без меры зубы, і звяркі загінуць.

Гаспадарам такая дзейнасць Клары, вядома, не падабалася. Параіўшыся, яны аддалі бабрыху ў запаведнік.

А ў запаведніку задумаліся: што рабіць з чорнай бабрыхай? Выпускаць на волю нельга. Яна адразу загіне, бо прывыкла да людзей і не баіцца іх. Пакідаць у адкрытай вальеры таксама небяспечна. Браканьеры могуць пакваліцца на цудоўнае чорнае футра.

Вырашылі пабудаваць спецыяльную закрытую вальеру. А пакуль Клара жыве ў падвале дома, дзе клапоціцца аб ёй Надзея Малюціна.

**ВІТАЛЬ ВОЛЬСКІ**

## ГЭТА ЦІКАВА

Самая пражэрлівая істота на зямлі - страказа. Вучоныя даказалі, што стракозы могуць за дзве гадзіны праглынуць сорак хатніх мух.

У пчол, чмялёў, мух і камароў няма органаў маўлення, але гэта пакуль яны сядзяць нерухома. Варта ім узляцець, як паветра напаўняецца гудзеннем і піскам. Што ж адбываецца? А нічога асаблівага: у насякомых, калі яны ляцяць, вельмі хутка трымцяць крыльцы. Муха робіць 330 узмахаў у мінуту, чмэль - 220, пчала, якая ляціць з мёдам, - 300, а ненагружаная - 440. Вось чаму па гуку можна вызначыць, куды ляціць пчала - у вулей ці па здабычу.

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Цёплы сухі вечар, чыстае неба, і раптам падзьмуў даволі моцны ўсходні вецер - уночы або назаўтра раніцай пачнецца зацяжны дождж.

Раніцай туман амаль не клубіцца панад зямлёю і вадою, а ўздымаецца ўгору і паступова рассейваецца - днём будзе горача; а калі туман уздымаецца і доўга не рассейваецца, то непагадзь не за гарамі.

Кошка мыецца, ліжа лапы - да цяпла, гарачыні.

У пахмурнае надвор'е кветкі дзьмухаўца адчыненыя - дажджу не будзе.

*ГРЫГАР УГАРАЎ*

## ПЕВЕНЬ-ВАРТАЎНІК

Усе мы мелі сабак, а ў нашага суседа сабакі не было.

- Ёсць вартаўнік і ў мяне, - сказаў ён мне аднойчы.

Я падумаў, што ён жартуе.

Аднойчы я паслаў Красіміра да суседа папрасіць садовых нажніц. Праз нейкую хвіліну хлапчук вярнуўся такі напалоханы, нібыта за ім гнаўся мядзведзь.

- Хто цябе гэтак напалохаў? - спытаў я.

- Певень!

- Як гэта певень можа напалохаць? - засмяяўся я.

- Ого! Ты яго не ведаеш!

Давялося мне самому ісці да суседзяў. Адчыніў я веснічкі, зайшоў у двор. Бачу, перад ганкам і сапраўды пахаджвае вялізны певень. Зырка-чырвоны, з фарсістым хвастом і ваяўнічымі шпорамі.

Калі я падышоў бліжэй, певень распасцёр крылы, скасавурыў на мяне цёмныя падазроныя вочкі. Я зрабіў крок наперад, потым яшчэ крок. Гляджу - пер'е на пеўні ўсё больш тапырыцца, а сам ён усё ніжэй угінае галаву і глядзіць на мяне варожа. І раптам гэты злосны певень як падскочыць, як кінецца на мяне! Я толькі адштурхнуў яго, а ён зноў накіраваўся і ледзь у вока не дзеўбануў.

Я пачаў адбівацца ад чырвонага пеўня. Красімір казаў праўду. У мяне ўжо не было ніякае ахвоты ісці ў дом. На шчасце, рыпнулі веснічкі, нехта зайшоў у двор.

- Кыш-ш-ш, Баян! - пачуўся голас.

Я азірнуўся - сусед.

Певень адразу ж прыціх. Прыціснуў крылы і паволі накіраваўся пад паветку, нешта злосна і пагрозліва лапочучы. Потым ускочыў на седала, выцягнуў шыю і праспяваў сваё "Кукарэку!"...

Сусед з усмешкай паказаў мне на пеўня:

- Ну як - добры вартаўнік?

- Яшчэ які! - адказаў я і паказаў суседу руку, тое месца, куды дзеўбануў мяне певень і дзе запяклася на ранцы кропелька крыві.

Сусед даў мне садовыя нажніцы, і я накіраваўся дадому. Певень сачыў за мною з седала. Як толькі я штурхнуў веснічкі, ён узмахнуў крыламі і прапеў мне наўздагон: "Кукарэку!" На яго мове гэта, пэўна, азначала: "Наступны раз падумаеш, як ісці ў чужы двор".

Певень той пражыў шмат гадоў. Ён быў такі выдатны вартаўнік, што на суседаў двор ніхто ніколі не адважыўся зайсці - ні сабака, ні кот, ні чалавек. Ніхто не лазіў да яго ў сад - ні па чарэшні, ні па яблыкі.

Красімір доўгі час усё хацеў пасябраваць з суседавым пеўнем, але яму гэта так і не ўдалося. І па сённяшні дзень ён баіцца хадзіць на суседаў двор.

*З балгарскай мовы пераклала*
*АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ*

*АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ*

### ЛЯНІЎЦЫ

Два селішчы
Сваіх ляніўцаў мелі.
Аднойчы
Паспрачацца захацелі
І грамаду
Відовішчам пацешыць:
Усё-ткі
Чый лянівец ленівейшы?
Як кажуць зараз,
Выбралі журы,
І тое
Аж да ранішняй зары
Усё сядзела,
Думала-гадала,
Як пераможцу
вызначыць -
Не знала.
Рашылі так:
Зрабіць два буданы,
Пакласці ў іх ляніўцаў.
Хай яны
Ляжаць у буданах,
Нібыта дома,
Бо ні на што не здатныя,
Вядома.
Пасля -
Адначасова падпаліць.
З буданчыка
Хто першы пабяжыць,
Калі агонь
Пад носам запалае,
Той і прайграе...
Ды пераможцаў
Так і не займелі:
Ляніўцы ў буданах сваіх
Згарэлі.

НАШАЯ СПАДЧЫНА

# ТУРАЎ

Там, дзе вольна нясе свае воды Прыпяць, у краі дрымучых палескіх лясоў, размясцілася мястэчка Тураў. Сівыя камяні Турава памятаюць вельмі многа. Густа скрыжавала тут свае шляхі гісторыя.

Вось што кажа легенда. Было гэта даўно. І бары ў той час былі гусцейшыя, і балоты - багністыя ды непраходныя. Цякла ў гэтым месцы срэбнаводная рака Струмень. Была і другая, такая ж паўнаводная рака Язда, ад якой засталася сёння толькі невялічкая жываточынка. І прыйшоў сюды аднойчы з вялікім войскам князь Тур. Прыйшоў таму, што было ў гэтым краі шмат звяроў, рыбы і ўсялякага птаства. І вырашыў ён пабудаваць тут горад. Па імю князя і назвалі горад Туравам. Упамінае легенда і пра незвычайны калодзеж. Было ў ім тры дны: меднае, срэбнае і залатое. Як толькі праверцца трэцяе, залатое дно, тады настане канец свету, зямля зробіцца суцэльным акіянам. Калодзеж той быццам таксама выкапаў заснавальнік горада князь Тур.

Упершыню Тураў згадваецца ў "Аповесці мінулых часоў" пад 980 годам. У канцы першага тысячагоддзя горад стаў цэнтрам Тураўскага княства, славіўся рознымі рамёствамі. Тут апрацоўвалі жалеза, дрэва і косць, рабілі посуд з гліны, шылі абутак, вышткоўвалі цудоўныя ўпрыгожванні з каштоўных металаў... І сабе хапала, і гандлявалі з Кіевам, Блізкім Усходам, Сярэдняй Азіяй, Прыбалтыкай.

У Тураве жыў і працаваў славуты старажытнарускі пісьменнік-прапаведнік Кірыла Тураўскі. З веку ў век перапісваліся яго творы, дайшлі да нас прытчы і "словы"-павучанні, якія вызначаюцца харастовм і велічнасцю паэтычных вобразаў. "Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси", - казалі пра іх аўтара сучаснікі.

Сённяшні Тураў шмат чым падобны на іншыя мястэчкі нашай Беларусі. Тут цэнтр калгаса "Новае жыццё". На правым беразе Прыпяці - прыстань. Доўгі час па рацэ суткамі снаваў паром. Цяпер берагі злучае новы мост.

Новыя дамы і вуліцы, школы і дзіцячыя сады, Дом піянераў, бібліятэка... Пра старажытны Тураў напамінае хіба гарадзішча, размешчанае пры ўпадзенні Язды ў Струмень. Мае яно форму трохкутніка, умацавана равамі і валам, які падзяляе гарадзішча на дзядзінец і вакольны горад. Трапляеш у далёкае мінулае, калі заходзіш у Тураўскі краязнаўчы музей. Тут сабраны рэчы, знойдзеныя ў час раскопак: наканечнікі стрэл, коп'і, нажы, крэсівы, замкі, бранзалеты, шкляны посуд. Гэта - сведкі далёкіх часоў, голас самой гісторыі.

Нясе ўдалеч свае воды задумлівая Прыпяць, і маўчаць у такім жа задуменні сівыя валы старога гарадзішча.

КАЗІМІР КАМЕЙША

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

## У КАМЕНЬЧЫКІ

У каменьчыкі гуляюць пераважна дзяўчынкі, удзвюх, утрох. Бяруць пяць каменьчыкаў, і кожная з удзельніц робіць з імі 5 - 6 фігур. Калі яна памыліцца дзе-небудзь, пачынае наступная. Гульня гэта запазычана ад яўрэйскіх дзяўчынак, якія замест каменьчыкаў ужываюць авечыя або казіныя каленныя костачкі і гуляюць з азартам, большай часткай на валошскія арэхі.

Фігуры гульні наступныя:

1. Адзінкі. Адзін каменьчык бяруць у рукі, астатнія чатыры раскладваюць па адным на зямлі ў выглядзе квадрата. Каменьчык, што ў руцэ, падкідвацца ўверх, а дзяўчынка павінна падабраць з зямлі адзін каменьчык і падхапіць той, што падкідвала. Так падбіраюцца ўсе чатыры каменьчыкі.
2. Двонкі. Чатыры каменьчыкі кладуцца на зямлі парамі і парамі ж потым падбіраюцца.
3. Тронкі. Каменьчыкі кладуцца ў дзве кучкі: тры ў адну і адзін у другую, і ў той жа колькасці падбіраюцца пры падкідванні пятага.
4. Ступа. Усе чатыры каменьчыкі кладуцца разам і адразу падбіраюцца.
5. Калі пасля гэтага ў руцэ будзе пяць каменьчыкаў, іх падкідваюць угару і ловяць адваротным бокам рукі, злёгку расставіўшы пальцы.
6. Затым зноў падкідваюць усе каменьчыкі ўверх і ловяць іх далонню.

Апошнія дзве фігуры называюцца конамі.

# ЖНІВЕНЬ

Прыпякае сонца. Паветра цяжкае, насычанае пахамі сухіх траў. Душна. Часта блакіт неба зацягваецца хмарамі, бліскаюць маланкі, лье дождж. Жнівеньскія залевы непрацяглыя. Прыбілі пыл, абмылі лісце, траву, і зноў сонца пячэ па-ранейшаму. Толькі паветра становіцца надзвычай духмянае. Дыхаеш на поўныя грудзі і не надыхаешся. Усю стому як рукой здымае.

У сасновых барах і пералесках вострa пахне квітнеючым верасам. Пачынае спаранасіць папараць. На змену звычайнай летняй ружоваfіялетавай афарбоўцы раслін прыходзяць залаціста-жоўтыя колеры. На лужках, абапал дарог, на выганах цвітуць жоўты лаганец, палын, валошкі і рознае пустазелле. Усюды шмат блакітных званочкаў.

Жнівень шчодра дорыць апошняе летняе цяпло прыродзе, а яна адплачвае сваімі дарамі. Сонцам адліваюць груды збожжа. На скошаных лугах узняліся стагі духмянага сена. На палях у самым разгары ўборка. У садах яблыні гнуцца пад багатым ураджаем.

Цяжка пералічыць усе дары жніўня. У лесе - першыя грыбы: баравікі, падасінавікі, падбярозавікі, лісічкі і іншыя. Асаблівай пашанай у грыбнікоў карыстаюцца аранжавачырвоныя рыжыкі.

У жніўні ў лесе можна ўбачыць маленькіх, з прыгожым узорам на спіне нованароджаных гадзюк. З'яўляюцца дзіцяняты і ў спрытнай яшчаркі.

Збіраюцца ў чароды птушкі. Хутка яны адправяцца ў далёкую дарогу. Першымі рыхтуюцца стрыжы і ластаўкі. Часта разам з імі ляцяць уначы і кажаны. Зімаваць яны будуць у пячорах Заходняй Еўропы.

У жніўні можна бачыць вялікія чароды шпакоў. Здаецца, імчыць па небе лёгкае воблачка. Неўзабаве, нібы па нейкаму сігналу, яно мяняе кірунак, разварочваецца і спускаецца на зямлю, а потым нечакана ўзлятае.

Дзіцяняты пушных звяроў яшчэ трымаюцца каля бацькоў, якія даюць ім апошнія ўрокі здабычы корму, вучаць, як засцерагчыся ад вострых іклаў драпежнікаў. Але недалёка той дзень, калі яны назаўсёды пакінуць сваё логава і пачнуць жыць самастойна.

Ідуць апошнія тыдні лета, поўныя хараства і шчодрасці. У іх ёсць і цяпло ўжо не такіх доўгіх дзён, і чыстая прахалода яркіх зорных начэй, і гушчыня малочных ранішніх туманоў. З бяроз і ліп пачынаюць ападаць першыя жоўтыя лісткі. Канчаецца лета. Подых восені ўсё бліжэй і бліжэй. Усе колеры і пахі лета і восені змяшаліся ў гэтыя дні.

А. КУРСКОЎ

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе
Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя
вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Днявро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...
Там, дзе сэрца маё з першым крокам, як молат,
заб'ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія
зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба - разлівы ільноў.
Дзе мой край? Там, дзе людзі ніколі не будуць
рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы, - ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край? Там, дзе мудрыя продкі у хвоях
паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.
Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбліцца змрок.
Ты - наш край. Ты - чароўная груша над
дзедаўскім домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная рацць,
Ты - наш сцяг, што нікому, нікому на свеце,
нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць, забыць ці мячом
зваяваць.
Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
І апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе.
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе.

ВАСІЛЬ ХОМЧАНКА

# МОРА І ВЕЦЕР

Захацеў вецер пасябраваць з морам.

А мора ляжала ціхае, грэлася на сонцы і драмала.

- Мора, давай сябраваць, - сказаў вецер і палашчыў яго.

Мора прачнулася, паморшчылася.

Тады вецер пачаў яго мацней лашчыць.

Мору такая ласка яшчэ больш не спадабалася, маршчынкі падняліся ў хвалі.

Чым мацней стараўся вецер палашчыць мора, тым яно больш злавалася, шумела, вышэй падымала хвалі, адганяла ад сябе вецер.

Пакрыўдзіўся вецер на мора, што не хоча з ім сябраваць, і паляцеў прэч.

Мора зноў прыціхла і заснула.

Так і не пасябравалі яны, мора і вецер. І ніколі не пасябруюць.

## КАЛЯРОВАЯ "ЗОРКА"

*Памалюй палі, пазначаныя цыфрамі: 1 - жоўтым, 2 - аранжавым, 3 - чырвоным, 4 - фіялетавым, 5 - блакітным, 6 - зялёным, 7 - карычневым, 8 - чорным колерамі.*



 

# МАКАТРАЗМЫ

### РАТУЙ НАС, БОЖА

Паэт зайшоўся ад адчаю,
Стыхію сам-насам страчае.
З бурай, з агнём справіцца зможа.
Ад благой жонкі ратуй нас, Божа.

Застыў на твары адбітак страху,
Ад гегемонных ратуй нас крахаў,
Ад карыфеяў і ветрагонаў,
Дзядзькоў прыблудных, пампезных
гномаў,

Ад лаўкачоў, казачных мафій,
Каварных шокавых тэрапій,
Задухі собскай і неафітаў,
Гіпнозу ўлады і новых міфаў.

Ад чужых ідалаў ратуй Усявышні,
Каб з слугавання ў свет мы выйшлі,
Каб з калектыўнай усталі знямогі
І сталі на ногі, і сталі на ногі.

Ачысці родны кут з кустоўя.
Надзьмутых пухіроў застойных,
Ліслівых стоеных рэптылій
З суцемкаў фарысейскіх вылы.

Цнатлівых трэфных выстаў на сонца,
Ад рэвальверных выбаў нас слоўцаў,
Ад вурдалачных звабліўых ложаў,
Ад самаедства ратуй нас, Божа.

А фарбаваных тутэйшых лісаў
Прымусь за кару чытаць „Уліса".
Збаў апантаных мроямі джойсаў
Ад пасіянарнага захлёсту.

Празорцаў сціплых узвядзі на троны,
Дай тронным мовам моц Цыцэрона,
І нам, мяшком з-пад мукі прыпыленым,
Прамый дабром шэрыя звіліны.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Ілгун** — юрыст з багатай практыкай.

**Ілюзія** — матка вельмі паважанай сям'і, якую складаюць Энтузіязм, Дружба, Самаадданасць, Вера, Надзея, Міласэрнасць і шмат іншых добрых сыноў і дачок.

**Імігрант** — цёмны чалавек, які лічыць, што адна краіна можа быць лепш за іншую.

**Імунітэт** — багацце.

**Ісціна** — дзіўнае спалучэнне пажаданага і рэальнага. Знайсці ісціну — адзіная мэта філасофіі, навукі, што праіснуе з такой мэтай да канца свету.

**Камерцыя** — від абмену, калі А выцягвае ад В тавар, што належыць С. Каб кампенсаваць страты, В выцягвае з кішэні D грошы, што належаць Е.

**Камфорт** — стан душы, выкліканы непрыемнасцямі суседа.

**Канверт** — труна дакумента, ножны рахунка, лупіна аплаты, начная кашуля любоўнага ліста.

**Кангрэс** — орган, які збіраецца, каб адкідваць розныя праекты закону.

**Кансультавацца** — шукаць адабрэння плана, які сам ужо даўно прыняў.

**Кансерватар** — дзяржаўны дзеяч, які хоча захаваць існуючае ліха, у адрозненні ад ліберала, які хоча замяніць гэтае ліха на новае.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*






*Малюнак М. Сеўлюка*

## БЕЛАРУСЫ ПРА САМІХ СЯБЕ

Бізнес па-беларуску: украсці скрыню гарэлкі, прадаць, а заробленыя грошы — прапіць.

* * *

Пытаюцца аднойчы ў беларуса, яўрэя і ўкраінца, што б яны зрабілі, каб мелі па два яблыкі.

— Свінням бы скарміў, — адказаў беларус.

— Два прадаў, чатыры купіў, — не думаючы, адказаў яўрэй.

А ўкраінец падумаў і кажа:

— З'іў бы!

— А што б вы зрабілі, каб мелі дзве тоны яблык? — зноў запыталіся ў беларуса, яўрэя і ўкраінца.

— Свінням бы скарміў, — адказаў беларус.

— Дзве тоны прадаў, чатыры — купіў, — адразу запэўніў яўрэй.

А ўкраінец падумаў і кажа:

— З'іў бы!

— Як, усе дзве тоны?..

— Што мог бы, то з'іў, а што не мог — то падкусіў!..

* * *

— Што такое адзін рускі?
— П'яніца.
— А два рускіх?
— Бойка.
— А тры рускіх?
— Пярвічная партыйная арганізацыя.
— Што ёсць адзін яўрэй?
— Спекулянт.
— Два яўрэі?
— Чэмпіянат свету па шахматах.
— Тры яўрэі?
— Ансамбль рускіх народных інструментаў.
— Што ёсць адзін беларус?
— Дурань.
— А два беларусы?
— Два дурні.
— А тры беларусы?
— Беларускі Саюз пісьменнікаў.
— Што ёсць адзін грузін?
— Культ асобы.
— Два грузіны?
— Культ асобы і масавыя рэпрэсіі.
— А тры грузіны?
— Гісторыя такога яшчэ не дапускала!..

**Падрыхтаваў**
**Францішак ХЛУС**

## СЕНТЭНЦЫІ

Без любові няма багацця, ёсць толькі рэчы.

* * *

Калі выйшаў на апошнюю прамую, не азірайся ўбакі.

* * *

Усё рознае, а попел аднолькавы.

* * *

Сляза развітання гарачэйшая за слязу сустрэчы.

**БАРЫС РУСКО**

## МІЖ НАМІ КАЖУЧЫ

Зайшоў бацька з пяцігадовым сынам у піўную. Бацка сеў за столік, замовіў гарэлкі і п'е.

- Можа, пойдзем дахаты? - пытаецца сын. - Чаму ты такі чырвоны стаў, мо блага табе?

- А ты, сынку, паспарабуй, напіся гарэлкі.

Дзіцёнак адпіў крыху і адразу скрывіўся.

- Ну што, горка?

- Горка.

- Дык вось, скажы маме, каб больш не дакарала мяне, што тутка прыемна сядзець!

* * *

На ўроку па прыродазнаўству настаўніца пытаецца:

- Скажыце, якая, на ваш погляд, самая прыгожая пара года?

- Вясна! Лета! - крычаць усе.

- Чаму крычыце? Хіба забыліся, як трэба паводзіць на ўроках? Трэба падняць руку, а ўжо я скажу, хто мае адказаць.

Дзеці паднялі рукі.

- Скажы ты, Міколка.

- Найпрыгажэйшая восень, - нечакана кажа той.

- Чаму?

- А я насуцпраць усяму класу так кажу, што яны крычалі: "Вясна! Лета!"

* * *

- Куды гэта дзеліся ўсе талеркі? - пытаецца свякруха Мірэка, - я ж толькі нядаўна дала вам новыя.

- Гэта ўсё вашая дачка вінаватая, - кажа той.

- Чаму так?

- Як злуецца яна на мяне, дык бярэ талерку і хоча ўдарыць мяне ў лоб. Я ўцякаю, а яна яшчэ больш злуецца і б'е талерку аб стол, і тады з адной робіцца дзве ці болей. Тады яна крыху супакойваецца і кажа: "Вазьмі гэта і вынясі на сметнік!" Каб не распачынаць новую сварку, я паслухмяна бяру і выношу.

**АЎРОРА**

## ЗАДАЧНІК

Праезд у гарадскім аўтобусе, як вядома, каштуе пяць тысяч злотых. Спадар З. карыстаецца гэтым відам транспарту ўдзень двойчы і заўсёды едзе „зайцам".

Пытанне: колькі грошай сэканоміць спадар З. за год?

**ЯСЕНЬ**

Адказ: Задача не мае рашэння, бо спадар З. ад пастаяннага нервовага напружання і страху перад кантралёрам да канца года не дажыве.




Дарагое Сэрцайка! Думала я, што гэта будзе маё першае і апошняе сапраўднае каханне. Я нават не магу сказаць, які ён быў. Прыгожы і прыстойны? А мо зусім звычайны, як іншыя... Мне здавалася, што цудоўнейшага за яго няма ў цэлым свеце. Быў для мяне ўсім. Для яго хацелася жыць, смяяцца, кахаць людзей. Увесь свет здаваўся мне раем, які ніколі не скончыцца.

Ну, падумай ты, як жа гэта магло скончыцца, калі прысягаў кахаць мяне заўсёды, нават тады, калі я стану „старэнькай і не такой прыгожай". Марыў пра тое, каб мы мелі дзіця. Я была гатовая нават і на гэта, хаця пра шлюб пакуль што гаворкі не было. Я верыла яму настолькі, што нават у галаву мне не прыходзіла яго здрада.

А ўсё праз той секс. У гэтых справах быў непаўторны. На працягу двух гадоў нашага „хаджэння" не было, бадай, двух аднолькавых дзён — заўсёды ўмеў знайсці нешта новае. А пры ўсім гэтым быў так цудоўна цёплы. Кахацца мы маглі цэлымі гадзінамі. Праўду кажучы, дык мы з ім мала куды хадзілі. Усе вольныя ад працы хвіліны праводзілі ў пасцелі. Мае бацькі нават пачалі наракаць, што ніколі мяне не бачаць. Вельмі хваляваліся спачатку, што можа напаткаць мяне нешта кепскае, але супакоіліся, калі я пазнаёміла іх з маім хлопцам. Быў ён такі ж мілы і сімпатычны да маіх бацькоў. І слова брыдкага ніколі не пачула я ад яго. У кампаніі нашых сяброў мы бывалі вельмі рэдка. Але недзе праз год нашага знаёмства адзін сябра шапнуў мне на вуха: „Кідай гэту свінню!" Я абразілася на яго і падумала, што проста ён пазайздросціў нашаму шчасцю. Нават тады, калі бацька майго хлопца (мы часта сустракаліся ў іх) сказаў мне так цёпла: „Дзяўчына, не дуры сабе ім галаву, шкада глядзець на ўсё гэта!", я не зразумела глыбіні яго слоў.

І вось здарылася непрадбачанае. Мае бацькі паехалі наведаць хворую бабулю ў іншым горадзе, і мы мелі магчымасць сустрэцца ў нас. Бацькі нават не дапускалі такой думкі, што мы жывем як муж з жонкай.

Усё было чароўна як заўсёды, а мо нават яшчэ чароўней — бо на новым месцы. Я яшчэ ляжала паўпрытомная ў ложку, калі пасля ўсяго хлопец пайшоў у ванную выкупацца. Відаць, забыўся зачыніць сваю сумку, а мо проста не ўяўляў сабе, што я ў яе палезу. Яна стаяла на зэдлічку проста пад маім носам, каля ложка, а з яе вытыркаўся нататнік.

Сёння нават не патраплю сказаць, чаму мая рука пацягнулася да яго — ці проста механічна, бо была я адна і не было чаго рабіць, ці мо ў глыбокіх закутках маёй душы усё ж быў нейкі недавер і варта было паглядзець, што запісвае мой хлопец.

Калі я разгарнула яго натэс, у мяне пацямнела ў вачах. Нейкія зашыфраваныя ініцыялы, яны паўтараліся рэгулярна, мо разы па 2 на тыдзень. Ініцыялаў было штук 6, а сустрэчы адбываліся ўначы або адразу пасля працы. Былі пазначаны таксама гадзіны. Што было рабіць? Уцякаць? Прасіць, каб растлумачыў... Тут жа ўсё было ясна. Калі ён выйшаў з ванны, я, кіўнуўшы ў бок яго натэса, толькі сказала: „Чаму ж ты не сказаў мне сам, што маеш іншых? Я б спакойна сабе адышла, калі б зразумела, што між намі скончылася каханне!"

Мой хлопец толькі сказаў, што калі б я даведалася, што сустракаецца ён з іншымі, дык напэўна адышла б ад яго. А я заўсёды была найважнейшай.

Не захацела я быць найважнейшай і ўсё ж адышла ад яго, бо хачу быць адзінай. Як ты думаеш, ці добра зрабіла я?

**Таццяна**

Таццяна! Ясна, што добра. Мо крышку запозна. Калі людзі нешта казалі, трэба было прыслухацца, бо нешта там было. Каханне пачынаецца і канчаецца несападзявана. Калі займеў іншых, значыць, яго каханне прайшло. Лепш не перацягваць струны. Аднак жа, заглядаць у чужыя нататкі брыдка.

**СЭРЦАЙКА**

 